ISSN 0320-7579

№ 4/2015(1043)

# Бярозка

## №4


Чароўны свет

КІНАШКОЛА
*УРОК № 2*
*+ КОНКУРС!*

**ПАВЕЛ БАЦЫЛЕЎ:**
«Бачу сябе ўладальнікам вялікай ІТ-кампаніі»

**НАБЫЦЬ АСАБЛІВАСЦЬ**
Як?

**АДРОЗНЕННЕ ІГОЛКІ АД КАНЯ**
і падабенства некаторых мух

# ГІСТОРЫЯ ЛЫЖКІ І ГОРАДА ЧОРНЫХ ЗАЙЦОЎ

*+ 2 майстар-класы*

Малюнак Жанны Гапон

# Падаравалі пісьмовы прыбор

***Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прадстаўляе***



«Новая зямля» 1941 года. Ацалелы сігнальны экзэмпляр даваеннага выдання паэмы з дарчым надпісам аўтара настаўніцы Аляксандры Дзмітрыеўне Жукоўскай.



Дзве срэбраныя чаранкі. Рэчы антыкварныя, на кожнай стаіць старая 84-я проба, якая адпавядае 875-й сучаснай. Год вырабу 1863. Падарунак Якубу Коласу і яго жонцы ад Янкі Купалы і Уладзіславы Францаўны Луцэвіч на сярэбранае вяселле. Унізе гравіроўка: рымская лічба XXV (25 гадоў сумеснага жыцця) і літары МКМ (Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч), на донцы — МД (Марыя Дзмітрыеўна).

Чарнільны прыбор (1945 год). Падараваны Якубу Коласу ў дзень нараджэння 3 лістапада 1945 года сябрамі-пісьменнікамі і адказнымі супрацоўнікамі Акадэміі навук БССР. У дзённіку «На схіле дзён» Якуб Колас запісаў: «Дзень майго нараджэння. Сабралася досыць многа народу. Былі пісьменнікі Лынькоў, Крапіва, два Петрусі, Лужанін. Ад Акадэміі Гораў, Ляонаў, Шэмпель… Усяго за 20 чалавек. Падаравалі пісьмовы прыбор».





Апошні ліст. Пісаны 13 жніўня 1956 года да сябра Яўгена Мазалькова, перакладчыка «Новай зямлі». Дапісаць гэты ліст Якуб Колас не паспеў, бо памёр у 13 гадзін 20 хвілін.

Рукапіс. Урывак паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка».

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вул. Акадэмічная, 5.***



Мастачка Алеся ГАЛОТА

# Цябе я ад душы вітаю

## ВЯСНОВЫ ВЕЧАР

Вось прыйшоў вясновы вечар,
Я ў лясок пайшоў гуляць.
Сонца спаць за лес кладзецца,
Елкі ў лесе хочуць спаць.

Елка побач зашумела,
Зашапталася з сасной…
А ўсё роўна добра ў лесе
Гэтай ранняю вясной!

*Антон КЛІМЗА,*
*5 клас, гімназія № 10, Мінск*

## ШЧАСЦЕ

Шчасце стаіць перад зачыненымі дзвярыма...
Каб знайсці да іх ключ — да сэрца прыслухайся!
Проста прыслухайся да свайго сэрца —
І адразу ж зразумееш,
Што жыць на свеце — гэта ўжо вялікае шчасце!
І не трэба, дружа, жаліцца і ліць слёзы.
Усміхніся — і зразумееш, што цябе нельга не любіць!
І няхай сонечны праменьчык заўсёды асвятляе твой твар,
І тады ты адразу знойдзеш ключ ад свайго шчасця!

***Віялета НАВІЦКАЯ,***
***5 клас, гімназія № 75, Мінск***

## ЗАМАЛЁЎКА ПРА ВЯСНУ

У барацьбе з зімой суровай
Не трэба зброі баявой.
Тут перамога дастаецца
Адной усмешкай веснавой.

У лужынах іскрыцца сонца.
Бягуць імкліва раўчукі.
І на пляцоўцы каля школы —
Дзе крэпасць? Дзе снегавікі?

Вясна! Ты ўжо не за гарамі.
Твой подых адчуваю скрозь.
Цябе я ад душы вітаю.
Прыходзь, жаданая, прыходзь!

***Ганна ВЯРШОК,***
***8 клас, гімназія № 10, Мінск***

## ЦІШЫНЯ…

Цішыня…
У хвіліну маўчання
Яркім полымем ззяе агонь…
І усёю душой адчуваеш
Той людскі акрываўлены боль.



Мастачка Алеся ГАЛОТА

Цяжка нам уявіць тое гора,
У цяперашнім мірным жыцці.
Тым байцам, каб свяцілі нам зоры,
Цяжкім шляхам прыйшлося прайсці.

І яны да апошняй хвіліны,
Як маглі, баранілі свой край.
І, сабраўшы апошнія сілы,
Перад смерцю шапталі: «Бывай…»

Цішыня
Скрозь пачуцці праб'ецца
І патушыць пакутны агонь.
Толькі ёй запалонена сэрца,
Толькі з ёй адчуваецца боль.

*Ірына КУЛІНІЧ,*
*10 клас, СШ № 3, Пружаны*

## СВАЕ І ЧУЖЫЯ

Каго людзі клічуць «свае»?
Таго, хто ім родны і блізкі,
Хто матчынай мовай пяе,
З кім дзелім свой лёс ад калыскі.

Ды толькі ці ўсе мы — свае?
А можа, бывае іначай?
Бо хтосьці жыццё аддае,
А іншы прад ворагам скача!

Яму ўсё адно, толькі б жыць
І болей нічога не трэба!
Не трэба «сваіх» бараніць —
Лепш біцца ў адчаі аб глебу,

Скарыцца ў самоце нямой
Прад ворагам, зверам і катам,
У час як крывёю сваёй
Зямлю паліваюць салдаты!

Такія «свае» горш за тых,
Каго людзі клічуць «чужымі».
Не дай Бог такіх вось «сваіх»
З сапраўднымі зблытаць сваімі!

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*11 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён*

Сачыненні пра вясну
Бо інакш – проста нельга

# Як Зіма ў аблачынку ператварылася

Зіма была доўгая, надзвычай халодная, але і яе час выйшаў. Надышоў крыгаход — затрэскаў лёд, закохкаў, і моцным парывам вызвалілася вада з-пад тоўстых ільдзін. Халоднай слязінкай выступіла яна на паверхні замерзлай ракі, пачала пашырацца, а потым забурліла па ўсёй рацэ вадаспадамі, парогамі, і па гэтай вадзе на сваім чоўне паплыла Вясна-чараўніца. Дзе махне адным рукавом — там снег растане, дзе другім махне — там траўка праб'ецца, а кветку са свайго чароўнага букета кіне — цэлая паляна пралесак заквітнее.

І плыве Вясна, абуджае прыроду ад глыбокага сну, а Зіма яшчэ спіць разам з дрэвамі і мядзведзямі, не прачынаецца. Ды вось толькі мала ёй так спаць засталося! Прачнулася яна, схамянулася, але позна.

Заплакала Зіма ад злосці і ператварылася ў маленькую лужынку. А калі прыгрэла сонейка, то і лужынка тая знікла, перакінулася ў прыгожую бялюткую аблачынку. А потым выпала аблачынка цёплым дожджыкам на зямельку, якая адразу ж пачала квітнець і адраджацца да новага жыцця.

*Дамінік МАЦУКЕВІЧ,*
*5 клас, гімназія № 10, Мінск*

# Разам радавацца Вясне

Сонечныя прамяні ўсё часцей прабіваюцца праз шэрыя хмары і праганяюць холад. Вясёлымі раўчукамі з узгоркаў сыходзіць снег. Чуецца паўсюль іх звонкае цурчанне. Дарэмна Зіма спрабуе ўтрымаць уладу, не можа яна доўга супрацьстаяць Вясне, яе сілы растаюць з кожным вясновым днём. Галасы абуджанага жыцця чуюцца ў цёплым подыху лёгкага ветру, у шчабятанні вераб'ёў пад стрэхамі, у вясёлым звоне капяжу.

Калі Вясна паўнапраўна ўжо ўладарыць над зямлёй, пачынаюць вяртацца да нас пералётныя птушкі. Кожны год ляцяць яны з цёплых краін, пераадольваючы велізарныя адлегласці, каб зноў апынуцца ў родных мясцінах і абвясціць усім: «Царства холаду разбурана, прыйшла цёплая пара!»

Давайце разам радавацца Вясне, непаўторнай яе прыгажосці!

*Ліза НАГРОЦКАЯ,*
*6 клас, гімназія № 1,*
*Свіслач, Гродзенскі раён*

# Пара-таямніца

Вясна — самая цікавая пара. Дрэвы, рэкі, палеткі — усё абуджаецца. Нібыта дзіця, што спала і нарэшце прачнулася. Дзіця смяецца і гуляе, хоць пасля сну часта і капрызнае. Так і прырода вясной. Яна прачнулася, нібыта нейкі нячутны і магутны голас загадаў ёй гэта зрабіць. Восенню ўсё вакол было чорным і навявала сум, а зараз, вясной, усё расквітнела і зазелянела.

Мой любімы месяц — сакавік. Гэта час загадак. Першыя тыдні яшчэ можа ісці снег. Потым раптоўна засвеціць сонца, растопіць сваімі праменьчыкамі снежную коўдру, што хавае пад сабой найпрыгажэйшыя кветкі. Гэтыя кветкі, такія безабаронныя, прагна цягнуцца да сонейка.

Потым надыходзіць красавік. Гэты месяц робіць цуд з дрэвамі. А яшчэ на гэты месяц амаль заўсёды прыпадае свята Вялікдзень, свята любові, дабрыні, шчырасці. У гэты дзень усе шчаслівыя, бо інакш — проста нельга.

А што нам абяцае май?

Май — вялікі мастак, а ягонай палітрай з'яўляецца сама зямля. Як ярка афарбаваны ў гэты час кветкі, як цудоўна пахнуць чаромха, бэз, язмін! Май вельмі любяць школьнікі, бо ўслед за ім пачынаюцца летнія канікулы.

Так што, вясна — пара-таямніца.

*Кацярына ДАВІДОЎСКАЯ,*
*9 клас, гімназія № 75, Мінск*

# Вучыцца бачыць прыгожае…

Шмат ёсць паэтаў, што складаюць вершы пра вясну, і я ведаю чаму. Бо вясна вельмі прыгожая, у ёй так шмат фарбаў ды гукаў, якія так і хочацца перадаць у сваім вершы. Але я не пішу вершаў, я атрымліваю асалоду ад самой вясны.

Толькі выйдзеш на вуліцу — і адразу столькі радасці і захаплення! Я на хвілінку заплюшчу вочы і ўяўлю: вясна-прыгажуня ўжо прайшлася басанож па зямлі. Вакол — маладая траўка, дрэўцы, што набраліся сілы і вось-вось зацвітуць, вясёлыя птушкі будзяць наваколле, сонейка свеціць у вочы: дзеля таго, мабыць, каб яго заўважылі ўсе без выключэння. Так цёпла і прыемна становіцца на душы!

А дзеці, якія гуляюць на вуліцы, нават не задумваюцца, што было б, калі б вясны не існавала ў прыродзе. Уявіць гэта цяжка і страшна. Ніхто не змог бы назіраць, як распускаюцца лісточкі, як ажывае вакол усё, каб радаваць нас кожны дзень. Мы б не чулі, як звонка б'юцца раўчукі аб мокрыя каменьчыкі, як весела ціўкаюць, нібы вітаюцца з намі, птушкі.

Не, не трэба нават і думаць пра такое! Вясна павінна быць, яна павінна прыносіць пасля доўгай зімы толькі лепшыя пачуцці: радасць ад жыцця, ад кожнага імгнення, надзею на добрае, любоў да ўсяго жывога!

*Маргарыта КУДЭЛКА,*
*6 клас, гімназія №1,*
*Свіслач, Гродзенскі раён*



*Заяўка на Парнас*

# Выродлівы хлопчык



Мастачка Алеся ГАЛОТА

Я была, як і ўсе дзеці. Не звяртала ўвагі на тых, на каго не звярталі ўвагі астатнія, і заўсёды паводзіла сабе так, як і належыць дзяўчынцы з «крутой» кампаніі.

Да гэтага часу дакладна памятаю, як выглядаў той хлопчык. Дзіўны, жахлівы твар з вялікімі блакітнымі вачыма, і заўсёды ў вачах гэтых было нешта такое, што міжволі прымушала адвярнуцца ад яго, збегчы як мага далей. Нешта калючае і нават жудаснае, што вельмі палохала. А яшчэ ў ягоным паглядзе бачылася мне глыбіня нечага такога, што надзейна прыхавана ад мяне і ад іншых дзяцей.

Такія вось вочы. Ярка-блакітныя. Праўда, часам здавалася, што яны адсвечваюць зялёным.

На твары хлопчыка выразна вылучаўся нос. Настолькі выразна, што некаторыя з нас называлі яго «гарой Арарат». Нос займаў большую частку твару. Я дзівілася, як на такім хударлявым твары можа змясціцца столькі ўсяго вялікага: і нос, і вочы?

Ростам хлопчык не выйшаў, да таго ж на спіне быў горб. У адрозненне ад вачэй, ён не выклікаў страху — толькі агіду. Гэту частку цела не магло схаваць ніякае адзенне.

Плечы хлопчыка былі па-мужчынску шырокімі, рукі — моцнымі і доўгімі, а ногі, наадварот, тонкімі, скрыўленымі, з вострымі каленямі. І я здзіўлялася: як тоненькія ножкі могуць утрымліваць моцнае цела?

Хлопчык быў дзіўны не толькі знешне, але і паводзінамі. Ніхто з аднакласнікаў не жадаў садзіцца побач з ім. Але бачна было, што хлопчыка гэта ані кропелькі не засмучае. Часам я пазірала на яго і заўважала, што ў сшытку ён малюе нейкімі старымі каляровымі алоўкамі. Але што ён там так заўзята малюе?

Памятаю, неяк выпадкова зазірнула ў ягоны сшытак і ўбачыла кветку. Ярка-чырвоная кветка з вялікімі пялёсткамі і чорнай сярэдзінай… Ды не адна! Цэлае макавае поле. Я не разумела, як можна было зрабіць такое алоўкамі са сметніцы. Ярка-чырвонае поле макаў, аблітае сонечным колерам. Жывое і сапраўднае… Я нават адчула летні, халаднаваты, але прыемны ветрык, што дыхнуў на мяне з малюнка.

А потым адчула на сабе ўважлівы погляд хлопчыка і адразу ж адвярнулася.

На фізкультуры мы выбягалі на школьны стадыён, гарлапанілі, гулялі, балбаталі. Хтосьці з кімсьці тузаўся, хтосьці ад

кагосьці ўцякаў. Але выродлівы хлопчык заўсёды трымаўся ўбаку. Корпаўся ў траве, падымаў адтуль штосьці, а потым трымаў гэтае штосьці ў сваіх шырокіх далонях, мякка гладзіў пальцамі, прыгаворваючы шэптам. Нашы хлопцы звычайна смяяліся, але не чапалі яго. Адзін раз паспрабавалі адабраць тое, што ён трымаў. Аказалася — маленькую багоўку. Тады хлопчык ускінуўся, далоні ягоныя сціснуліся ў кулакі, твар пачырванеў. І ад яго адразу адступілі, працягваючы пры гэтым здзекліва хіхікаць. Бо нельга ж было так проста збегчы і паказаць гэтым свой спалох.

Неяк я паспрачалася з сяброўкамі, што прасачу за выродлівым хлопчыкам пасля школы. І сапраўды гэта зрабіла.

Ён ішоў павольна, нібыта праз сілу перавальваючыся з адной нагі на другую. А я, стараючыся быць непрыкметнай, брыла следам. Так мы дайшлі да ягонага дома. Я схавалася за кустамі, лістота на якіх была сухой і цьмянай, а хлопчык з цяжкасцю ўзняўся па прыступках на ганак, увайшоў у дом і шчыльна зачыніў дзверы. А потым я ўбачыла яго постаць у акне.

Спрэчка была выйграна, але я не спяшалася сыходзіць. Падышла бліжэй да акна, зазірнула ў пакой.

Дом знадворку выглядаў даволі шэра і занядбана, але там, унутры, аказалася вельмі светла і прасторна. Нават павуцінне на столі здалося раптам асаблівым, нават прыгожым. Дакладней, прыгожым падаўся ўзор, які ўтварала гэтае павуцінне. На сценах не было шпалер, але хлопчык размаляваў усю пустую прастору цудоўнымі малюнкамі. На адной сцяне, да прыкладу, было мора і яго асвятлялі промні вечаровага сонца, на другой — лясная дарога, над якой у чорным небе блішчалі зоркі. На сцяне насупраць — луг з кветкамі. Зноў — макавае поле, толькі яшчэ больш жывое, чым на паперы. У мяне нават перахапіла дыханне. Я забылася нават, дзе знаходжуся і што раблю.

А протым зноў дзівілася: як гэтыя тоўстыя, такія няўклюдныя пальцы могуць ствараць гэткую незвычайную прыгажосць?

А потым убачыла, як выродлівы хлопчык сеў за фартэпіяна ля «марской» сцяны і зайграў. Музыка была чыстай і жывой. І сам ён у гэты час не выглядаў выродлівым. Ён быў незвычайным, не такім, як усе. А яшчэ хлопчык увесь час усміхаўся, і погляд яго вялікіх блакітных вачэй не быў калючым ды напружаным, як заўсёды, а летуценным, добрым. На нейкае імгненне ён падаўся мне амаль прыгожым.

А потым я, забыўшыся, што стаю не на зямлі, а на няўстойлівым вядзерцы, пахіснулася і, каб утрымацца, ухапілася за падаконнік, грукнуўшы пры гэтым локцем у шкло. Музыка адразу сціхла. Хлопчык, ускінуўшы галаву, паглядзеў у мой бок, ужо звыклым калючым і амаль жудасным позіркам. А я, саскочыўшы з вядра, адразу ж кінулася прэч.

Мяне перапаўнялі незразумелыя думкі і пачуцці, я хацела схавацца, закрыцца, каб больш ніколі не бачыць яго карцін на сцяне, не чуць цудоўнай музыкі, не адчуваць на сябе цяжкага позірку. Усё было так проста і зразумела раней… І навошта мне было тады спрачацца? І як я заўтра сустрэнуся з ім у класе?

Але сустрэцца нам не давялося, бо выродлівы хлопчык у школу больш не прыйшоў. Ні ў гэты дзень, ні ў наступны. І ніхто з класа так і не пацікавіўся: чаму ён не прыйшоў, што з ім здарылася? І нават калі праз нейкі час мы даведаліся, што хлопчык збег з дому, а перад тым разбіў фартэпіяна і паспрабаваў падпаліць пакой, у якім жыў, — нават тады ўсе засталіся абыякавымі і нават не сталі абмяркоўваць навіну паміж сабой.

І я таксама маўчала, бо не хацела быць не такой, як усе…

*Марыя ДЗЕРБІЧАВА,*
*9 клас, СШ № 207, Мінск*



Мастачка Юлія УСАВА

11 клас

# Чалавечыя сэрцы на добрых далонях

Раман «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна, створаны ў пачатку 1960-х гадоў, і сёння цудоўна чытаецца. Цяжка адарвацца — так сцвярджаюць чытачы. І цяжка растлумачыць сілу ўплыву твора, напісанага так даўно. Тут, відаць, перапляліся некалькі фактараў эстэтычнага ўздзеяння, што і дало выключны чытацкі эфект.

Сярод гэтых фактараў звычайна першым называюць сюжэт. Шамякіна лічаць лепшым майстрам у пасляваеннай беларускай прозе. У рамане «Сэрца на далоні» сюжэт мае дэтэктыўную спружыну. Ва ўсялякім разе, тут дастаткова сітуацыйных і псіхалагічных загадак.

Журналіст і пісьменнік Кірыла Шыковіч, напісаўшы неўзабаве пасля вайны дакументальную кнігу разам з высокім абласным начальнікам Гуканам, удзельнікам партызанскай і падпольнай барацьбы, а фактычна замест яго, праз дзесяць гадоў адкрывае новыя факты па тэме і хацеў бы працягнуць працу, упэўнены, што далёка не ўся праўда пра савецкае падполле ў час акупацыі выяўлена. Тым больш, што сябра Шыковіча, праслаўлены ў рэспубліцы хірург Антон Яраш, робіць удалую аперацыю на сэрцы цяжкахворай Зосі Савіч, дачцэ доктара Савіча, які лічыўся здраднікам, прыслужнікам фашыстаў. Але Яраш, актыўны ўдзельнік падполля, яко-

га менавіта Зося выратавала ад смерці, не верыць у здраду доктара, свайго настаўніка. Павага да сябра і пісьменніцкая інтуіцыя прымушаюць Шыковіча заняцца сур'ёзным расследаваннем, падчас якога высвятляецца, што Гукан, які ўсяляк перашкаджае рабоце журналіста, адразу пасля вайны напісаў данос на Зосю і яе бацьку, зрабіўшы з іх здраднікаў. Між тым, якраз абараняючы партызанскага сувязнога Гукана, загінуў доктар Савіч, які быў адным з кіраўнікоў абласнога падполля. А Зося вынесла не толькі катаванні гестапаўцаў, нямецкія канцлагеры, але і высылку ў Сібір — як дачка нямецкага паслугача. Такога роду несправядлівасці — з'ява нярэдкая ў тую цяжкую эпоху.

У ліберальны час напісання твора беларускім партызанскім рухам і гарадскім падполлем перыяду фашысцкай акупацыі займаліся многія журналісты, пісьменнікі, навукоўцы-гісторыкі. Тут аказалася шмат нязведанага, надзвычай таямнічага — цяжка было дашукацца да ісціны. Неверагодна складаныя ўмовы барацьбы, штодзённая смяротная рызыка пры жорсткім рэжыме нацыстаў не дазвалялі падпольшчыкам фіксаваць кожны свой крок у дакументах. У выніку абапірацца ў росшуках можна было толькі на сведчанні тых, хто застаўся пасля вайны жывы. Пераважная большасць іх — сумленныя, шчырыя, праўдзівыя людзі. Але сустракаліся часам і кар'ерысты тыпу Гукана, якія дзеля таго, каб узвялічыць сябе, паклёпнічалі на іншых і асуджалі іх, такіх, як Зося Савіч, на пакуты.

Рэтраспектыўна-гістарычна-дэтэктыўнай лініяй з яе пакручастымі перыпетыямі сюжэт твора не вычэрпваецца. Шмат увагі аўтар надае тэме кахання — як і належыць у класічным рамане. Драматычныя любоўныя трохкутнікі ўтвараюцца і ў асяроддзі моладзі (Славік — Маша — Тарас), і сярод сталых людзей (Яраш — Галіна Адамаўна — Зося Савіч). Бадай, справа нават і не вычэрпваецца традыцыйнымі трохкутнікамі — усё больш складана і заблытана ў чалавечых стасунках. Так, у Славіка, сына Шыковіча, закахана яго калега па працы Ніна, а ў прыёмнага сына Яраша Тараса — сястра Славіка Іра.

Маладым увогуле адведзена шмат старонак у рамане. Асабліва падрабязна выпісаны вобразы Славіка Шыковіча і медсястры Машы, якая працуе з Ярашам. Славік — стыляга, як называлі такіх тыпаў у той час. Цяжка нават сказаць, ці быў прататып у гэтага героя: у асяроддзі пісьменніка, сярод яго дзяцей, пляменнікаў і нашчадкаў шамякінскіх сяброў не сустракалася такога кшталту асоб. У дачцэ Шыковіча Іры пазнаецца старэйшая дачка самога Шамякіна Ліна — ёй якраз у час напісання твора было дваццаць гадоў, як і гераіні. У дачцэ Яраша, дванаццацігадовай Наташы, угадваецца таксама дачка пісьменніка, аўтар гэтых радкоў. Але астатнія персанажы — выдуманыя, сабраныя з рысак шматлікіх юнакоў, якіх сустракаў Шамякін на жыццёвай дарозе, а ён у той час шмат ездзіў, выступаў у розных калектывах, кантактаваў з велізарнай колькасцю людзей, у тым ліку, маладых. Прычым валодаў такім талентам, што нават раз убачыўшы чалавека, умеў па-майстэрску дадумваць яго лёс і псіхалогію.

Вобраз Славіка, які пастаянна з-за свайго характару трапляе ў недарэчныя сітуацыі, надае твору дадатковы драматызм. Бясспрэчна, імкненне вылучыцца адзеннем (у Славіка — вузенькія штаны і вяровачкі на шыі замест гальштука), пэўны максімалізм у поглядах і некаторы цынізм, адмаўленне і існуючых парадкаў, і агульначалавечых каштоўнасцей характэрныя для многіх маладых людзей ва ўсе часы. Савецкая эпоха ў гэтым плане не была выключэннем. Але калі пры Сталіне, у гады мабілізацыйнай эканомікі, максімальнага напружання сіл народа ў будаўніцтве магутнай, здольнай супрацьстаяць ворагам,

дзяржавы, такія тыпы, як Славік, асуджаліся насельніцтвам, то ў 1950-я гады і асабліва ў 1960-я да іх ужо ставяцца паблажліва, ліберальна, мякка. Бацькі разважалі: мы напакутаваліся, дык няхай хоць дзеці лёгка пажывуць.

Шамякін паказвае, што само жыццё (дружны працоўны калектыў, шчырае каханне) змяняе такіх, па сутнасці сваёй добрых хлопцаў, як Славік. Часам так і здаралася — на свеце ўсё бывае. Але шмат хто жыў, сталеў, нават рабіў добрую кар'еру, так і захаваўшы юнацкі крытыканскі настрой, з незадавальненнем іншымі, а не сабой, з прыпісваннем грахоў чалавечых, бо няма людзей без грахоў, сацыяльнаму ладу — сацыялізму. Але лад такі, якія людзі. І чалавек, які не змог шчасліва жыць пры адным ладзе, не здолее адчуваць сябе добра і пры другім, трэцім, чацвёртым, пятым.

Іншая справа, што ў тыя гады — час напісання твора — яшчэ і ўлады, і вытворчыя калектывы клапаціліся пра кожнага асобнага чалавека, не было таго грамадскага раўнадушша, якое пануе сёння. Таму і бярэ брыгада камуністычнай працы да сябе безнадзейнага, здавалася б, Славіка. Так не раз здаралася ў тыя гады. Але множылася колькасць і тых, асабліва сярод інтэлігенцыі, прычым сталічнай — маскоўскай, мінскай, хто жыў, трымаючы дулю ў кішэні. Гэта значыць, думаў адно, гаварыў другое, рабіў трэцяе. Такія і прывялі магутную краіну да развалу. Дастаткова параўнаць, што гаварылі на самым версе да ліквідацыі СССР і пасля.

Тым і цікавы раман, што ён паказвае савецкае грамадства нібыта на перавале, акцэнтуе ўвагу на сацыяльных тэндэнцыях, якія атрымаюць працяг у будучым. Яшчэ дзейнічала інерцыя Перамогі, душэўныя, шчырыя адносіны паміж людзьмі, якія і дапамаглі нам выжыць. Яшчэ лепшыя з беларусаў жылі высокімі ідэаламі — Шыковіч, Яраш, партыйны сакратар Тарасаў, ды і маладыя — Маша, Тарас, Віктар. Героі ўмелі моцна кахаць і сябраваць, памятаць пра мінулае, захапляцца прыгажосцю прыроды і мастацтвам. У рамане выдатныя пейзажныя малюнкі, персанажы часта паўстаюць на ўлонні прыроды — на рыбалцы, за зборам грыбоў, вечарамі вакол вогнішча.

Асабліва ўмеў Шамякін паказаць людзей у працы, у іх прафесійнай дзейнасці. Найлепш яму ўдаўся вобраз хірурга Антона Яраша, і як прафесіянала, і як чалавека. Удаўся настолькі, што дзякуючы гэтаму герою і да сёння ўрачы Беларусі лічаць раман Шамякіна галоўным літаратурным творам пра іх высакародную прафесію. Бадай, рэдка можна сустрэць у нашай краіне доктара старэйшага і сярэдняга пакаленняў, які б не чытаў раман «Сэрца на далоні» і не захапляўся ім.

Шамякін у абмалёўцы дзейнасці ўрачоў кіраваўся не толькі мастакоўскай інтуіцыяй, але і глыбока вывучаў асаблівасці прафесіі. Ён быў знаёмы з многімі дзеячамі медыцыны, сярод іх — выдатнымі, якія і яго ратавалі падчас аперацый. Ён, як і яго герой Кірыла Шыковіч, папрасіўся паназіраць аперацыю на сэрцы. Яму, як і яго герою, стала блага. Але ўсё ж галоўнае ён паспеў угледзець: «...бачыў сэрца, жывое, трапяткое, на далоні, на шырокай добрай далоні».

Сцэна бліскучай аперацыі доктара Яраша стала стрыжнёвай, найбольш канцэптуальнай у рамане, вызначыўшы яго назву. З таго часу гэтая назва выкарыстоўвалася дзясяткі, калі не сотні разоў, журналістамі і пісьменнікамі, так што стала нават банальнай. Але Шамякін быў першы, хто прыдумаў яе і надаў глыбокі і высокі гуманістычны сэнс. Любы чалавек, хоць бы той жа Славік, якога ўсе лічылі прапашчым, носіць у грудзях жывое, трапяткое, пяшчотнае сэрца. Кожнае сэрца прагне разумення і дабрыні да сябе — каб, кажучы метафарычна, апынуцца ў вялікіх, моцных, умелых чалавечых дало-

нях, што сімвалізуюць усё тое добрае, што стварыў чалавек на зямлі. Уласна, пра гэта раман.

Ёсць у творы і шмат прыкмет таго часу, які сапраўды можна лічыць пераходным. Дарэчы, з тэксту відаць, што ніякага дэфіцыту, у прыватнасці, прадуктаў, яшчэ няма: героі носяць з крам розныя прысмакі, часта згадваюцца замежныя каньякі, шампанскае, цукеркі, торты. Сапраўды, дэфіцыт, ды і тое не ў Беларусі, якую ўзначальваў і сёння любімы народам Машэраў, пачаўся пасля рэформаў 1965 года, калі прадпрыемствы і асабліва гандлёвая мафія сталі кіравацца выключна сваімі інтарэсамі, а не патрэбамі пакупнікоў. Вельмі доўга тыя рэформы, якія можна палічыць ужо рынкавымі, эканамісты і журналісты нязменна праслаўлялі, не беручы на сябе працу іх глыбокага аналізу. Сёння відаць, што рэформы 1960-х гадоў, на самай справе, сталі для эканомікі разбуральнымі і нарадзілі шмат негатыўных з'яў.

У час напісання рамана СССР актыўна гандляваў з краінамі народнай дэмакратыі, таму не раз, між іншым, фігуруюць у творы якія-небудзь чэшскія кофтачкі ці тэніскі, бо чэшскія вырабы тады былі ўзорам менавіта еўрапейскай якасці. У той жа час такая прыкрая з'ява, як блат, ужо, можна сказаць, квітнела. Так, Шыковіч і Яраш, шукаючы добрую мэблю для новай кватэры Зосі, у краме нічога добрага не знайшлі і вымушаны былі выкарыстаць сваю вядомасць, каб купіць на базе сапраўды прыгожы рыжскі гарнітур для аднапакаёўкі.

Крытыкі не раз звярталі ўвагу на моцны антыбюракратычны пафас рамана. Тут шмат аўтарскіх выпадаў супраць чыноўнікаў, дурных лозунгаў, партыйных бяздушных прамоў. Вось Шыковіч бярэцца выправіць дрэнны артыкул: «Замест правільнай, але прэснай жвачкі выходзіла жывое, дасціпнае, едкае слова пра няўдалы спектакль». Прэсная жвачка, на жаль, пераважала ў СМІ і страшна абрыдла савецкім людзям. Менавіта таму аказваліся моцна запатрабаваныя і мелі шумны поспех такія яркія, з добрай мовай, мастацкія творы, як раман Шамякіна. Між іншым, гэта яшчэ быў той час, калі літаратура непасрэдна ўздзейнічала на побыт. Многае пасля рамана, сапраўды, надзвычай папулярнага, змянілася ў жыцці да лепшага. Напрыклад, Яраш ненавідзеў шэрыя бальнічныя халаты і «ўжо колькі год вёў вайну, каб замяніць іх». Пасля рамана Шамякіна ў бальніцах іх замянілі на пярэсткія, яркія.

Сёння цяжка ўявіць, што раман пісаўся ўсяго толькі саракагадовым чалавекам — на цяперашні час амаль юнаком. Праўда, пакаленне нашых бацькоў было нашмат мудрэйшае за цяперашняе, бо прайшло праз вайну. Таму такія слушныя, нечаканыя для нас, выключна актуальныя філасофскія развагі ў творы: пра сацыяльнае жыццё, пра памяць пакаленняў, пра выхаванне, увагу і павагу да чалавека. У той жа час Шамякін — сапраўдны дыялектык. Вось разважае Яраш: «Калі гэта людзі стануць такімі, каб разумелі адзін аднаго ва ўсім, — у палітыцы, навуцы, мастацтве, у сям'і, побыце? А можа, і не трэба такое ідэальнае ўзаемаразуменне? Сумна будзе. Барацьба супрацьлегласцяў — закон жыцця і руху. Любоў і нянавісць, любоў і рэўнасць, цяпло і холад...»

Усё гэта ёсць у самім рамане. Гэта нібы само жыццё, перанесенае на старонкі кнігі з кінематаграфічнай дакладнасцю і натуральнасцю, так што мы яскрава ўяўляем кожную сцэну. Таму раман і трымае, не дае адарвацца. У той жа час мастацкае слова дапамагае таму, чаго не зробіць ні адно кіно, — пранікнуць у глыбіню чалавечага сэрца, нібы патрымаць яго на далоні, каб адчуць яго трапяткую безабароннасць...

***Таццяна ШАМЯКІНА,***
***доктар філалагічных навук***

*Напішы як Ксенія Вядзмедзь — і станеш аўтарам калонкі!*



*Ксенія Вядзмедзь*
*11 клас, гімназія № 61,*
*Мінск*

# Гомельскае паветра

Я мінчанка. Сапраўдная і верная. Нарадзілася ў Мінску, вучуся ў гімназіі, потым планую і ва ўніверсітэт паступіць менавіта тут. Я люблю гэты горад усім сэрцам. Паважаю тое месца, дзе вырасла.

Мінск — маё месца. Але вялікую і, што вельмі важна, значную частку майго сэрца займае іншы беларускі горад. Мабыць, выбар дзіўны, але што зробіш.

Гомель — месца, дзе я правяла свае лепшыя дзіцячыя гады. Я вярталася туды і летам, і ўзімку. І заўсёды з адчуваннем чагосьці прыемнага і мілага сэрцу. Калі б гадоў сем таму вы папрасілі мяне адгарнуць кніжачку з нумарамі тэлефонаў, то ўбачылі б, што ўсе нумары там гомельскія. І гэта невыпадкова: у гэтым горадзе былі і сябры, і непрыяцелі. У гэтым горадзе было жыццё.

Аднак я апавядаю не пра свае дзіцячыя ўспаміны. Сутнасць маёй гісторыі ў тым, што ў Гомелі я не была шэсць гадоў. І вось нядаўна вырашыла з'ездзіць. Рашэнне атрымалася спантанным. Я дамовілася з сяброўкай і купіла квіткі. Наша невялікае падарожжа было запланавана ўсяго на адзін дзень: толькі прыгадаць самае галоўнае, чаго мне так не хапала ўсе шэсць гадоў. І вось мы тут.

Першае, што здзівіла, — за час, што мяне тут не было, горад зусім не змяніўся. Тыя ж шыльды на крамах, тая ж атмасфера, нават паветра засталося такім, якім было раней. Ідзеш нібыта па лялечным горадзе. Мы з сяброўкай гуляем па парку, праходзім да ракі, робім фотаздымкі. Гэты невялікі, але ўтульны горад, нібыта чароўная скрыначка з успамінамі, самымі светлымі, чыстымі і па-дзіцячы наіўнымі. Іх хочацца прыгадваць доўга, нетаропка, успамінаючы кожную важную дэталь.

Усю дарогу мне чагосьці не хапае. Я маральна да чагосьці рыхтуюся. І раптам зразумела: нам трэба падысці да дома, у якім я жыла шэсць гадоў таму. Вось мы ўжо бачым яго. Я напісала пра нязменнае паветра? Дык і тут я заўважыла гэту прыемную з'яву. Нават наплылі ўспаміны: я, маленькая дзяўчынка, расчыняю акно, якое даўно ўжо патрэскалася ад старасці, і ўдыхаю тое самае гомельскае паветра.

Вось тое, чаго мне так не хапала, — настальгія па лепшых дзіцячых гадах. Я ўпэўнена, што такая з'ява павінна адбыцца з кожным. Канешне, не ў кожнага ёсць магчымасць вярнуцца ў любімыя мясціны і даць волю пачуццям, як гэта было ў мяне, але калі ўжо ёсць такі шанц, трэба абавязкова здзейсніць гэта маленькае падарожжа ў чароўную краіну свайго дзяцінства.

Чаму ў канцы лета мухі пачынаюць балюча кусацца? У гэты час з'яўляюцца мухі, якія харчуюцца крывёй. І колер у іх не чорны, а шаравата-стракаты.

*Ці ты бачыў калі прывід вясёлкі? А мёртвага каня за рулём? А ці быў у краіне ліліпутаў? Не палохайся, Аркаша не з'ехаў з глуздоў, чакаючы новай сустрэчы з табою. Проста мне так хацелася здзівіць цябе аповедамі пра здані, а тут раптам аказалася, што нават звычайны, рэальны свет поўніцца неразгаданымі таямніцамі і дзіўнымі з'явамі!*



## ПРЫВІД ВЯСЁЛКІ

Прывідная вясёлка — лёгкая, быццам створаная з дыму — з'яўляецца толькі ў тумане. І хоць бачыць яе можна па ўсім свеце, яна паказваецца рэдка, вельмі рэдка. Як мы, духі ночы.

З'ява тлумачыцца проста. Туманная вясёлка з'яўляецца ў выпадку пераламлення промняў святла ў неверагодна маленькіх кроплях. З-за гэтага яна выглядае неверагодна блякла і ў акружэнні дымкі, таму і здаецца прывіднай.

## КАМЯНІ, ЯКІЯ ХОДЗЯЦЬ

Камяні ўмеюць хадзіць! Не верыш? У ЗША ёсць цэлая даліна вандроўных камянёў. Па сутнасці, гэта роўнае глеістае дно перасохлага возера Рэйстрак-Плая. Вялізныя валуны, што трапілі на яго патрэсканую роўнядзь з блізкіх высокіх скал, маюць здольнасць самастойна перамяшчацца па ёй на некалькі метраў за месяц! Шматлікія назіранні і даследаванні вынікаў не далі. Не вядома, што дакладна прымушае цяжкія камяні рухацца ў розных кірунках, пакідаючы глыбокія сляды-каляіны!

## МЁРТВЫ КОНЬ-ВАДЗІЦЕЛЬ

Вадзіцелі аўтамабіляў, што праязджаюць па шашы, якая вядзе да малавядомага гарадка Бэйкер у штаце Нявада, часта недаўменна спыняюцца, угледзеўшы за рулём іржавага аўто чэрап каня, які зачаравана пазірае ў прастору. Капыцік каня месціцца на прыборнай панэлі, быццам той вось-вось рушыць з месца і выправіцца ў свой таемны шлях. Верагодней за ўсё, гэта дзіўная жудасная кампазіцыя — творчасць жыхароў напаўзакінутага гарадка, якія пакутуюць ад недахопу забаў.

***

Табе ўжо захацелася ў падарожжа? У свеце так шмат загадкавага і цікавага, што нават у мяне ўзнікае думка сарвацца з месца і… Не. Не і не. Я застануся тут, у кабінеце галоўрэда, з якога вяду гэту рубрыку, ляпаючы па начах па клавіятуры. Ведаеш чаму? Бо прывіды ўмеюць падарожнічаць сілаю ўласнага ўяўлення. Яно ў мяне на дзіва растаропнае. Паглядзі, якую страшылку я прыдумаў для цябе за апошні месяц, які мы не бачыліся! Называецца «Чорны веласіпед». Аднаму хлопчыку падарылі чорны веласіпед…

Слухай, мне далі толькі адну старонку, ды яшчэ, як бачыш, 13-ю. І яна скончылася. Нічога, калі наступным разам я табе і пра веласіпед распавяду, і яшчэ пра нештачка? А пакуль — пакуль!

Да сустрэчы, дружа!

***Партрэт Аркашы намалявала Алёна ЛАРЫЁНАВА***

Майстар-класы ад Алёны Беланожка

# Вакол лыжкі

***З лыжак можна зрабіць сімпатычную ляльку (майстар-клас № 1). Імі ж можна стварыць у доме вясновы настрой (майстар-клас № 2). Падарыце такі букецік сваёй матулі — як прызнанне ў тым, што яна вельмі смачна гатуе.***

## Майстар-клас № 1





Існуе цікавая прыказка: «Нарадзіўся са срэбранай лыжкай у роце». Так кажуць пра чалавека, які мае багатых бацькоў. Гэта павер'е ўзнікла ў XV стагоддзі, калі распаўсюдзілася традыцыя, згодна з якой хросныя бацькі дарылі сваім хрэснікам так званыя апостальскія лыжкі. На апостальскіх лыжках былі змешчаны выявы вучняў Хрыста — апосталаў, радзей — сам Ісус. Заможныя хросныя дарылі дванаццаць лыжак, але толькі адна з іх была срэбранай; самыя бедныя дарылі адну лыжку з простага металу.

Лыжка была намалявана на гербе янычарскага войска султана Ур-хана. Гэта каб воіны кожную хвіліну памяталі, што яны «адпрацоўваюць» султанскую ўзнагароду.

Каштоўныя лыжкі раней насілі пры сабе ў футляры, а драўляныя захоўвалі ў «лыжачніцах» або спецыяльных кошыках.

Правілы ранейшага карыстання: пасля зачэрпвання ежы з агульнай місы лыжку аблізвалі з абодвух бакоў і апускалі на стол. Узяць яе зноў можна было толькі пражаваўшы ежу. Той, хто не апускаў лыжку, лічыўся абжорам. А калі хто-небудзь паводзіў сябе не так, як належыць, — смяяўся ці размаўляў, то старэйшы за сталом біў яго лыжкай па лбе.



## Майстар-клас № 2



Раней нельга было ставіць лыжку так, каб яна ўпіралася чаранком у стол, а чарпалам у талерку — бо тады па чаранку, як па масту, у талерку магла трапіць нячыстая сіла. Не дазвалялася стукаць лыжкай па стале, бо так «склікаюцца на абед злыдні».

У XVIII стагоддзі студэнты Казанскага ўніверсітэта верылі, што калі пакласці чайную лыжку пад кніжкую шафу, то іспыт будзе здадзены паспяхова. А ў Кембрыджы драўлянай лыжкай «узнагароджвалі» студэнта, які атрымаў самую нізкую адзнаку па матэматыцы.

Знакаміты мастак Сальвадор Далі, клаўся спаць і браў у руку лыжку. Калі засынаў, лыжка падала на падлогу або металічны паднос. Тады мастак прачынаўся і пачынаў замалёўваць тое, што бачыў у сваім кароткім сне.

Некалькі гадоў таму шасцёра тайваньскіх студэнтаў вырашылі паўдзельнічаць у конкурсе на лепшы праект экалагічнага каляднага дрэва. Яны зрабілі елку з васьмідзесяці тысяч пластыкавых лыжак аднаразовага карыстання і сталі пераможцамі!

*Інтэрактыўны праект, у якім можа прыняць удзел кожная школа краіны*




Мастачка Вольга ІСАКАВА

*Каму:*
- *Настаўнікам*
- *Бацькам*
- *Вучням*

# Гаджэтаманія — міф ці рэальнасць?

У сярэдняй школе № 129 Мінска пачулі размову пра тое, што выкарыстанне электронных сродкаў уплывае на вучняў. Ці можна даставаць мабільнік на ўроку і колькі часу варта праводзіць з гаджэтамі?

Удзельнікі падслуханай размовы:

***Святлана Міхайлаўна Пяткевіч***, настаўнік музыкі: С. М.

***Кіра Уладзіміраўна Казлова***, настаўнік англійскай мовы: К. У.

***Жанна Уладзіміраўна Шылко***, намеснік дырэктара па вучэбнай працы: Ж. У.

***Максім Міхайлавіч Гардэн***, настаўнік фізікі: М. М.

***С. М.***: Асабіста мае ўрокі амаль немагчыма правесці без выкарыстання гаджэтаў. Яны — спадарожнікі і інструменты сучасных інтэрактыўных урокаў музыкі. Без інфармацыйных тэхналогій ужо даўно не так, як з імі. Гэта «электроннасць» вельмі прывабная. Вы толькі паглядзіце: сам-насам з праграмай школьнік можа вывучаць танальнасці, інструменты, гісторыю культуры, нават пісаць музыку. Гэта для іх зацікаўленасці!

***К. У.***: Так! Інтэрактыўныя спосабы навучання выйграюць па многіх параметрах. Самы галоўны — ступень засваення інфармацыі. Даказана, што яна значна вышэй пры інтэрактыўным спосабе навучання. У Беларусі пакуль толькі зараджаецца такая сістэма навучання, але неўзабаве, я думаю, мы ўбачым яе плён.

***М. М.***: Бачна, з якой цікавасцю дзеці карыстаюцца інтэрнэтам на занятках. Але залішне яны карыстаюцца гаджэтамі не з вучэбнымі мэтамі. Яны не выпускаюць іх з рук, гавораць толькі на тэмы, якія датычацца гульняў і сацыяльных сетак!

***К. У.***: Гэта іх стыхія! Так яны развіваюць сябе. Мы павінны навучыцца гэта выкарыстоўваць.

***Ж. У.***: Выкарыстанне планшэтаў дома ацэньваю станоўча, нават раю бацькам праграмы, адобраныя Міністэрствам адукацыі для вольнага часу вучняў. А вось што датычыцца планшэтаў у школе… Гэтыя прылады правакуюць статычнае, пасіўнае правядзенне перапынкаў паміж заняткамі. Калі на ўроку настаўнік можа кантраляваць пасадку дзіцяці, то на перапынку гэта немагчыма. Вядома, гэта негатыўна адбіваецца на паставе. Дзеці потым цяжка ўключаюцца ў рэжым урока, становяцца гультаяватымі ў фізічным і інтэлектуальным сэнсе. Тэлефоны перашкаджаюць: і навучацца, і адпачываць. Дзеці быццам прывязаныя да трубак, і ствараецца адчуванне, што ім на працягу дня патрэбна пастаяннае суправаджэнне са справаздачамі. Яны ж без патрэбы, па кожнай дробязі і з кожнай нагоды тэлефануюць бацькам. І іх таксама ад працы адцягваюць…

# Размовы пра мову: прывучаць ці чакаць?

Віцебская вобласць, горад Докшыцы, сярэдняя школа № 1, кабінет настаўніцы беларускай мовы і літаратуры ***Марыны Вінальеўны Казлоўскай***. Якраз падыходзілі да завяршэння дадатковыя заняткі, як са сталіцы завітала былая вучаніца, зараз — студэнтка факультэта журналістыкі **С**. Распавяла пра навіны і поспехі, адзначыла, што пачала больш размаўляць па-беларуску. Маўляў, дарасла ўжо…

***С.***: — Ведаеце, у дзяцінстве я беларускую мову не вельмі любіла, бо мне ставілі «двойкі» за тое, што замест «і» беларускага па звычцы ставіла рускае. Зручней мне так было… На беларускай мове пачала мэтанакіравана размаўляць толькі на першым курсе. Да гэтага магла пры неабходнасці і размову падтрымаць, і чытаць, і пісаць, але не хацелася. А што мяне так змяніла тры гады таму, не ведаю. Я да чаго гэта… можа, да беларускай мовы «дарасці» трэба, як і да іншых дзеянняў самаўдасканалення? Для зносін хапае рускай мовы, а беларуская — знак інтэлігентнасці, мова пісьменнікаў, паэтаў, некаторых навукоўцаў...

***М. В.***: — Гэта добра, што ты дарасла, а іншыя як? Чаму іншыя народы паважаюць сваю мову, а мы не можам? Яна, як кажуць, другая ў свеце па мілагучнасці, а мы смяёмся. Хто з яе будзе смяяцца ў іншай краіне? З дзяцінства не прывівалі ў нашых дзяцей любоў да яе. Гэта не школа павінна рабіць, а бацькі. Але ж бацькі самі часам не ведаюць.

***С.***: — Каюся, яшчэ год сем таму сама смяялася з «патэльні» ды «шкарпэтак». Зараз нясмешна. Згодная, ведаць трэба. І спадзяюся я на тых, хто зараз у школе вучыцца і да алімпіяд рыхтуецца, чытаць любіць. Спадзяюся, што не адразу, але ўсе дарастуць.

***Запісалі Уладзіслаў ТРУХАНАЎ і Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

# Крэатыў па шаблоне

— Шанцуе табе, Вітальеўна, — сказала цётка Таня, прыбіральшчыца, абапіраючыся на швабру і разглядваючы клас з выглядам мастацкага крытыка. Цяпер, калі калідоры школы № 1 імя П. В. Сухога горада Глыбокае апусцелі і статак мамантаў, што памылкова быў названы малодшымі школьнікамі, бацькі разабралі па дамах, прыбіральшчыцу пацягнула на доўгія размовы.

— Чаму ж? — азірнулася Жанна Вітальеўна Міхалевіч, настаўніца малявання і чарчэння. Яна складвала ў шуфляду тоўсты стос перапэцканых акварэллю альбомных аркушаў.

— Іншая настаўніца стос сшыткаў дадому нясе ды цэлы вечар прасядзіць, адно і тое ж перапраўляючы, а ў цябе — малюнкі, скульптуркі, выцінанкі-выразанкі. Хоць тэма і адна, затое творчасць неабмежаваная. Крэатыў правяраеш.

— Крэатыву гэтага кот наплакаў.

— Няўжо?

— Прынамсі, у класе 28 вучняў. Тэма ўрока — «Восень залатая». Я на дошцы праводжу майстар-клас, тлумачу, што можа быць на малюнку, раблю некалькі магчымых замалёвак. Дык вось, з 28 чалавек толькі пяць сапраўды зробяць арыгінальны малюнак, астатнія — перакапіруюць відарыс з дошкі. А тры-чатыры чалавекі наогул «не пачуюць» тлумачэнняў і будуць маляваць нешта сваё.

— Вось і я думаю, што неяк няправільна цяпер дзеці растуць. Глядзіш — ідзе першакласнік, ледзь ілбом у дзверы трапляе, бо вочы ў тэлефон ці планшэт утароплены. Забіваюць мазгі дробязямі, ні старэйшых не слухаюць, ні ў казкі не вераць, адкуль фантазіі брацца? — ад набалелых успамінаў цётка Таня нават перахоплівае швабру на манер дзіды ці ручнога шлагбаума.

— Дзеці цяпер прасунутыя, гэта так, але і наіўныя, — бароніць Жанна Вітальеўна школьнікаў. — Яны ведаюць пра будову планеты, але ў той жа час вераць у існаванне Дзеда Мароза.

— А як жа тады патлумачыш 20 аднатыпных малюнкаў? — ніякавее цётка.

— Дзеці развучыліся думаць. Ім цяжка шукаць адказы на пытанні, нават калі пасля задання ў падручніку ёсць нумар старонкі, дзе напісана тлумачэнне. Мама, бабуля робяць за іх «дамашку» і нават сумку складваюць. Таму фраза «Дапамажыце мне» часта тое самае, што «У мяне не атрымаецца, зрабіце за мяне». Але талентаў хапае. Дзеці наогул вельмі крэатыўны народ, і калі трошкі іх падпіхнеш, пачынаюць думаць. Асабліва шкада, што ўрокі выяўленчага мастацтва заканчваюцца менавіта тады, калі дзеці пачынаюць думаць самастойна, калі ў іх з'яўляюцца, нарэшце, ідэі. Верыш, мне даводзіцца паказваць, як выціраць фарбу з парты, як выліць ваду ў ракавіну, каб не запырскацца, як карыстацца нажніцамі… Часам бацькі хочуць вылучыць сваё дзіця, купляюць яму асаблівыя віды пластыліну, не прызначаныя для карыстання ва ўмовах урока. Адсюль — дарагі пластылін ліпне да рук, крышыцца, дзіця бачыць, што ў яго не атрымліваецца, а ў суседа ўсё добра, — і расчароўваецца, яму ўжо не хочацца працаваць, — настаўніца нарэшце справілася з усімі малюнкамі і пачала апранацца.

— Яно гэдак, Вітальеўна, — пагаджаецца цётка Таня. — А ўсё ж навошта табе гэтага мастака будзіць? Хай бы і спаў, калі так хоча.

— Чалавек не можа не тварыць. Калі нельга выказацца праз малюнак, сачыненне, песню, музыку ці іншую якую творчасць, ён будзе пазнаваць свет праз біццё вокнаў ці праз надпісы на сценах.

— Дык гэта, аказваецца, хуліганы на другім паверсе свет пазнавалі?! — успыхнула прыбіральшчыца.

*Запісала Рагнеда ЮРГЕЛЬ*

# Законы гэтай краіны

Прызнаюся, калі нам распавядалі пра іх, мы былі крыху напалоханы: «Як шмат трэба захоўваць і выконваць». Але страх наш не быў абгрунтаваны! Наадварот, у нас заўсёды сядзела жаданне прытрымлівацца правіл.

Калі ты прыязджаеш у «Зубронак» упершыню, то спачатку скептычна ставішся да яго звычаяў і рытуалаў. Усё гэта здаецца табе трохі дзіўным, нейкім дзіцячым. Але гэта толькі першае ўражанне!

Слова «закон» гучыць сур'ёзна і крыху палохае, праўда? Але няварта хвалявацца: «зубронкаўскія законы» будзе шчыра любіць і паважаць кожны. Бо яны такія.

## ЗАКОН ЗЕЛЯНІНЫ

Ён азначае, што трэба берагчы прыроду. «Зубронак» знаходзіцца на тэрыторыі Нацыянальнага парку «Нарачанскі», вядомага сваёй дзівоснай і непаўторнай прыродай. Чыстыя азёры, маляўнічыя пейзажы… Складана не захапляцца ўсім гэтым!

У «Зубронку» стаўленне да прыроды асаблівае. Не раю вам хадзіць па газонах, ламаць галіны дрэў, смеціць і рабіць іншую шкоду. Інакш адправяць прасіць прабачэння ў жырафы, і рабіць вы гэта будзеце ажно да таго часу, пакуль не паверне да вас сваю галаву. Па сакрэце скажу, што жывёла яшчэ ні разу не павярнула яе і не збіраецца гэта рабіць бліжэйшыя гадоў сто.

## ЗАКОН ПРАВАЙ РУКІ

У «Зубронку» пануюць павага і адкрытасць, што, уласна кажучы, і сімвалізуе рука, павернутая далонню да людзей. Тут вы заўсёды зможаце выказаць сваё меркаванне і быць упэўненым у тым, што яго пачулі. Калі хтосьці падняў правую руку, значыць, яму ёсць што сказаць, ён хоча падзяліцца гэтым з вамі. Будзьце ветлівыя і выслухайце.

## ЗАКОН ДАКЛАДНАСЦІ

У «Зубронку» дні вельмі насычаныя! Спартландыі, конкурсы, канцэрты, рэпетыцыі… Каб усё паспець, трэба прытрымлівацца плана дня, распрацаванага важатымі: своечасова прачынацца, своечасова наведваць мерапрыемствы, сталовую, школу, гурткі. Калі не будзе праблем з дакладнасцю, то вашы дні тут будуць праходзіць прадуктыўна і вельмі цікава.

## ЗАКОН ТЭРЫТОРЫІ

Хочаце атрымаць больш балаў і заняць першае месца ў конкурсе атрадаў? Тады старайцеся падтрымліваць чысціню і парадак у пакоі. Мы павінны сачыць за парадкам і на атрадным месцы, і ў корпусе, і за столікамі ў сталоўцы. Сачыць за парадкам на сваёй тэрыторыі і не парушаць парадкі чужой.

Наступным разам я распавяду вам пра традыцыі «Зубронка».

***Алена РЭМАНЮК,***
***11 клас, Коханаўская СШ імя І. П. Кажара,***
***Талачынскі раён***

У адной з краін Лацінскай Амерыкі выдалі серыю кніг, надрукаваных спецыяльным чарнілам. Пад сумесным дзеяннем сонца і паветра яно паступова знікае, і адбываецца гэта даволі хутка — на працягу двух месяцаў. Гэта зроблена, каб прымусіць людзей чытаць кнігі, якія яны набываюць, а не проста ставіць іх на паліцу.


Вядучы рубрыкі Андрэй Палупанаў

*Усё вельмі сур'ёзна! Лепшыя заданні, выкананыя ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола, будуць разыграны ў конкурсе на бясплатнае навучанне ў сапраўднай кінашколе! (Прапанова filmschool.by).*

# Новыя ўрокі

## АПЕРАТАРУ

Вельмі важна аператару ведаць пра асвятленне. Гуляючы са святлом, ён атрымлівае атмасферныя карцінкі, што так уражваюць гледачоў. Ёсць ***чатыры віды асвятлення:***

• ***святлаценевае,*** ажыццяўляецца праз крыніцы накіраванага святла ў павільёнах, па-за павільёнам (на вуліцы) — сонцам; характарызуецца рэзкімі ценямі;

• ***святлатонавае,*** патрэбна для раўнамернага асвятлення аб'ектаў і сімуляцыі асвятлення ў пахмурнае надвор'е; звычайна дасягаецца адбівальнікамі, а таксама лямпамі рассеянага святла; вызначаецца адсутнасцю ценяў;

• ***лакальнае,*** неабходна для вылучэння найбольш значнай часткі сцэны, нязначныя часткі пакідаюцца ў цені;

• ***сілуэтнае,*** аб'ект асвятляецца ззаду, з-за чаго не мае дэталяў, але мае добра акрэслены контур.

Паспрабуйма самастойна знайсці іх. Зрабі фотаздымкі з відамі асвятлення і выкладзі ў групу «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола. Мы такім чынам праверым, ці правільна ты зразумеў матэрыял.

***Класічная схема святла ў кіно:***

• ***святло, якое малюе;*** выконвае функцыю асноўнай крыніцы святла, надае асветленым аб'ектам аб'ём (дзякуючы таму, што ўтвараюцца рэзкія цені і з'яўляецца кантраст);

• ***святло, якое запаўняе***; служыць для згладжвання рэзкіх участкаў ценяў, створаных святлом, якое малюе;

• ***кантравое;*** стварае беражок збоку ад аб'екта, аддзяляе аб'ект ад фону;

• ***контурнае;*** усталёўваецца строга за аб'ектам. Стварае беражок па ўсёй вобласці аб'екта.

***Увага!*** Некаторыя выкладчыкі паміж кантравым і контурным відамі асвятлення ставяць знак «роўна».

• ***фонавае;*** прызначаецца для падсвятлення аб'ектаў, размешчаных ззаду (на фоне) і стварэння малюнка;

• ***мадэлюючае;*** стварае дадатковае святло на дэталях, на якія патрабуецца зрабіць акцэнт, дадае аб'ём.


*Зрабі фотаздымкі з гэтымі відамі асвятлення і выкладзі ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола. Разам абмяркуем!*

## РЭЖЫСЁРУ

Чалавеку, які плануе звязаць жыццё з кіно, трэба глядзець як мага больш фільмаў. І гэта павінны быць не толькі

забаўляльныя карціны, якія, што называецца, ні сэрцу ні розуму. Табе патрэбна інтэлектуальнае кіно, якому даюць узнагароды на кінафестывалях, ацэньваючы як мастацтва.

Паглядзі тры фільмы-прызёры і тры фільмы без прызоў. Ёсць розніца? Якая? Падзяліся думкамі ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.



*Завядзі творчы дзённік! Рэжысёр павінен умець інтэрпрэтаваць гісторыі і візуалізаваць іх. Выберы казку або апавяданне, уважліва прачытай, запомні адчуванні (а лепш — запішы ў творчы дзённік) і прачытай яшчэ раз, але больш удумліва. Паспрабуй намаляваць гісторыю адной карцінкай. Перад гэтым табе давядзецца задаць сабе пытанне: пра што гэта гісторыя? Выкладзі малюнак у групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола. Разам абмяркуем!*

## МАНТАЖОРУ

Пры стварэнні фільмаў на этапе, калі ўвесь матэрыял ужо адзняты на камеру, адбываецца склейка неабходных кадраў і сцэн у адну стужку. Гэта і ёсць мантаж. Пры мантажы можна не толькі абразаць відэа і наплываць адным кадрам на другі, але і выкарыстоўваць інструменты для карэкцыі колераў, розных маніпуляцый і спецэфектаў, змены хуткасці і мікшыравання гуку. Наяўнасць магутнага камп’ютара дазваляе ажыццяўляць гэта дома.

Першы крок. Дастаўка матэрыялу. Тут усё залежыць ад таго, на які носьбіт праводзіўся запіс. Калі на лічбавую касету, то захоп відэа трэба зрабіць праз адпаведны інтэрфейс (як правіла, гэта USB або IEEE 1394 (Fireware)). Калі на карту памяці, то праз яе падключэнне і элементарнае капіраванне. Камп’ютар разумее гэта прыстасаванне як вінчэсцер ці «флэшку».

Вось некаторыя ***найбольш папулярныя праграмы для мантажу***:




Мастачка Юлія УСАВА

• Adobe Premiere Pro CS (Windows) — самая папулярная прафесійная (рэкамендуецца);

• Sony Vegas Pro 10 (Windows) — даволі зручная паўпрафесійная (для лянівых);

• Apple Final Cut Pro X (Mac OSX) — прафесійная для камп’ютараў Apple;

• Pinnacle Studio HD, Avid Studio (Windows) — добрая праграма (ёсць прафесійная і дамашняя версіі);

• Windows Movie Maker (Windows) — прымітыўная (для сур’ёзна настроеных не рэкамендуецца);

• Grass Valley Edius (Canopus) (Windows) — якасны і прадуктыўны рэдактар відэа (цяжкаваты для вывучэння).

Усталюй праграму і паспрабуй што-небудзь склеіць. Падзяліся досведам у групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.

Кіно ў Беларусі выходзіць на новы віток! І яно мае ў табе патрэбу! Будзь актыўным! Дзяліся сваімі напрацоўкамі! Удачы табе!



# «Аднойчы я рашаў задачы па хіміі...

## ...і прыдумаў алгарытм, які сам можа з імі разабрацца»

***Павел Бацылеў вельмі сціплы і нешматслоўны. Здаецца нават, што ён адчувае сябе няёмка, калі на яго звяртаюць увагу. А між іншым, менавіта яму шмат школьнікаў можа падзякаваць за свае добрыя веды па хіміі.***

Ён стварыў мабільную прыладу «Хімія X10», якая дапамагае рашыць нават самыя складаныя задачы на масавыя долі, колькасць рэчыва і канцэнтрацыю раствора. Яна можа падказаць неабходную формулу, перавесці велічыні, знайсці неабходны элемент у табліцы Мендзялеева... Шмат яшчэ ў ёй карыснага. Летась Павел з гэтым сваім праектам перамог у конкурсе «100 ідэй для Беларусі». Сёлета яго імя прагучала зноў: ён стварыў праект «У саюз з сябрамі» на беларускай мове. Пра свае распрацоўкі, сакрэты поспеху і планы на жыццё Павел неахвотна, але пагадзіўся распавесці нам.

**— Чаму ты стварыў прыладу менавіта па хіміі?**

— Я з маленства цікавіўся ўсім без разбору, у тым ліку і хіміяй, але больш вабілі інфарматыка, фізіка і матэматыка. Аднойчы рашаў задачы па хіміі і прыдумаў алгарытм праграмы, якая можа сама разабрацца з хімічнай (а ў тэорыі і фізічнай) задачай, ды яшчэ і растлумачыць школьніку кожны крок рашэння. Калі я зрабіў тую частку, якая рашае задачы, то зразумеў, што добра было б дадаць розных функцый, каб стварыць сапраўды карысную прыладу. Так з'явіліся розныя калькулятары, былі ўведзены табліца Мендзялеева, тэарэтычны дапаможнік і г. д. Старадарожскі раённы аддзел БРСМ прапанаваў паўдзельнічаць у конкурсе «100 ідэй для Беларусі», я і пагадзіўся. Прайшоў адборачныя этапы і прыехаў на фінал, які праходзіў у Нацыянальнай акадэміі навук. Там сабраліся самыя моцныя ўдзельнікі конкурсу, не толькі школьнікі, але і дарослыя. У журы сядзелі навукоўцы, бізнесмены, інвестары, якія выбіралі дзясятку лепшых праектаў. Перамога дала мне грант, а прыладзе — папулярнасць. Я атрымаў працу ў Цэнтры інтэрнэт-праектаў БРСМ яшчэ да таго, як паступіў у ВНУ.

**— Ведаю, што той грант ты пусціў на стварэнне новай праграмы. Раскажы пра яе.**

— Прылада «У саюз з сябрамі» дазваляе бачыць, хто яшчэ ў радыусе 300 метраў карыстаецца ёю, паглядзець анкеты і фота-

здымкі людзей «Вконтакте», адшукаць сваіх сяброў, дзе б яны ні знаходзіліся, дасылаць ім паведамленні.

**— Чаму ты стварыў гэту прыладу менавіта на беларускай мове? На рускай яна, пэўна, была б больш папулярнай…**

— Гэта прылада для беларусаў, а мова — яе «фішка». На жаль, на беларускую мову забываюцца, а гэтага нельга дазваляць. Я спадзяюся, што менавіта на беларускай мове гэта прылада і будзе патрэбнай і актуальнай.

**— З такімі сур'ёзнымі заняткамі ці ёсць у цябе іншыя цікаўнасці?**

— Я цікаўлюся праграмаваннем, дызайнам, прасоўваннем мабільных прылад і сайтаў. У вольны час сустракаюся з сябрамі, гляджу фільмы, як і ўсе людзі.

**— Якой ты бачыш сваю будучыню?**

— Я ўжо вырашыў, што мая праца будзе звязана з інфармацыйнымі тэхналогіямі. Зараз я вучуся на мехмаце БДУ на спецыяльнасці «вэб-праграмаванне і інтэрнэт-тэхналогіі». У планах у мяне — апублікаваць новую версію «Хіміі Х10», якая будзе выконваць яшчэ больш функцый і падтрымліваць некалькі моў. Праз 5—10 гадоў бачу сябе ўладальнікам ІТ-кампаніі.

**— Як лічыш, якія якасці патрэбны таму, хто збіраецца сур'ёзна займацца навукай?**

— Сапраўдны навукоўца павінен быць вельмі ўседлівым і старанным, падрыхтаваным да таго, што шмат часу давядзецца аддаць на тое, каб рабіць і перарабляць адно і тое ж. Не абысціся без веры ў сябе і сваю ідэю.

*Гутарыла Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

## НАМАЛЮЙ ХІМІКА







*Праект мастака Аляксандра КАРШАКЕВІЧА*


Святлана Сітнік

Толькі для дзяўчынак!

# Ты — лепшая!

***Кожная дзяўчынка марыць пра каханне. Вялікае, яскравае, узаемнае. Ты хочаш падабацца хлопчыкам, сябраваць з імі, але не ведаеш як, што для гэтага патрэбна, з чаго пачаць? А проста вазьмі і…***

## СТАНЬ АСАБЛІВАЙ

Знайдзі ў сабе «разыначку», а для гэтага падумай: што добрае сказалі б (ці ўжо казалі) пра цябе аднакласнікі, знаёмыя, сябры «Вконтакте»? Напрыклад, пра Машу сказалі б, што яна вельмі добразычлівая і заўсёды дапаможа, калі цяжка. Пра Кацю — што міласэрная, бо корміць катоў ля пад'езда і збіраецца зрабіцца[1] валанцёрам, каб дапамагаць беспрытульным жывёлкам. Вераніка наведвае секцыю па каратэ і можа за сябе пастаяць. Таня ярка апранаецца і ўмее рабіць цікавыя прычоскі. Кожная дзяўчынка асаблівая, у кожнай знойдзецца лепшы бок: розум, смеласць, пачуццё гумару. У кожнай ёсць нешта такое, што адрознівае яе ад астатніх. І ты маеш свой характар, тое, чаго няма ў іншых, і нешта робіш лепш, чым астатнія.

Канешне, калі гэта рыса негатыўная (напрыклад, лянота да вучобы ці жаданне ўвесь час пляткарыць), табе трэба тэрмінова выпраўляцца. Бо гэта не робіць цябе прывабнай для хлопчыкаў, наадварот, можа толькі нашкодзіць твайму сяброўству з імі. Развівай лепшыя бакі, станавіся больш адметнай. Калі, напрыклад, паважаеш моду, то можаш праявіць індывідуальнасць у знешнасці, стварыўшы ачмурэнны «лук»[2] (толькі сачы за тым, каб не перабольшыць, інакш «разыначка» згубіцца, а «лук» ператворыцца ў «цыбульныя» слёзы).

## БУДЗЬ ЦІКАВАЙ

Пазнаёміцца і пасябраваць з хлопцам, які падабаецца, прасцей праз інтэрнэт. Робіш яму (або яго сабаку ці хамячку) ненавязлівы камплімент, шчыра захапляешся фотаздымкам (або тым, што на ім адлюстравана), каменціруеш разумныя выказванні на яго старонцы — і атрымліваеш у адказ яго ўвагу і цікаўнасць да цябе і тваёй старонкі. Слова за слова, вы завязваеце дыялог і робіцеся «сябрамі». Няхай гэта пакуль толькі статус «Вконтакте», усё наперадзе, калі толькі ты яго заінтыгуеш. Цікавымі ў час інтэрнэта здаюцца тыя, хто

***[1]Збіраецца зрабіцца — часам язык чапляецца, а бывае, што і настрой да чытання губляецца, калі сустракаеш такія «сугуччы». Паўтараем, што мы дапускаем іх наўмысна, з дазволу аўтараў тэкстаў, выключна з мэтай папярэдзіць цябе, дружа, як не трэба пісаць у сачыненнях.***

***[2]«Лук» — тут ад англійскага look, знешнасць.***

ўмее пісаць. Табе не будзе роўных, калі ты зробішся трошкі пісьменніцай. Гэта проста — трэба толькі ўвесь час трэніравацца.

Трэніраваць пісьменніцкія навыкі можна ў чатах і на форумах. Зарэгіструйся пад такім нікам, каб цябе ніхто не пазнаў, — гэта карысна на той выпадак, калі раптам напішаш нейкае глупства. Ну, калі ўжо зусім лухту выдасі, то можна проста «збегчы» з форуму і перарэгістравацца. Чаты і форумы — выдатныя месцы, дзе можна вольна дыскутаваць і вучыцца гэтаму ў іншых. Пастаянна аналізуй свае запісы: ці магла б ты сфармуляваць сваю думку цікавей, чым сфармулявала? Так у хуткім часе займееш добры досвед напісання змястоўных паведамленняў, перастанеш баяцца незнаёмых людзей, навучышся цікава расказваць пра сябе і свае захапленні. Ажыятажныя думкі кшталту «а што пра мяне падумаюць?» і «а раптам я нешта зрабіла не так?» пакінуць цябе, ты ператворышся ў саму ўпэўненасць і лёгка зробіш крок насустрач мары, якая сядзіць цяпер па той бок сацыяльнай сеткі!

## БУДЗЬ НАВІДАВОКУ

Файна, калі ты можаш паказаць сябе на сцэне, спартыўнай пляцоўцы ці ў сяброўскай кампаніі. А што рабіць, калі ні спевамі, ні спортам ты не займаешся? Тэрмінова знайсці занятак па сэрцы: танцы — дапамогуць стаць упэўненай на любой дыскатэцы, урокі ігры на гітары — зробяць зоркай кампаніі. Ды і на саміх занятках — танцамі, гітарай, маляваннем — можна не толькі сустрэць кандыдатуру на ролю твайго хлопца, але і лёгка з ім пасябраваць.

Шукай спосабы сябе рэкламаваць. Вучыся гэтаму ў маркетолагаў. Уяві сабе дзве рэкламы аднаго тавара, напрыклад, пральнага парашку. Адна вісіць недзе на плоце — кавалак паперы, на якім напісана: «Купіце наш пральны сродак, ён вам спадабаецца!» Другая — бігборд у цэнтры горада, з яркай карцінкай, вялікімі літарамі. Задай сабе пытанне: у якім выпадку на тавар будзе звернута больш увагі? Вось жа! Але як часта дзяўчынкі хаваюць свае таленты і прыгажосць — не выходзячы з хаты, седзячы сціпла ў кутку, у чаканні, што нехта заўважыць. Ствральнікі рэкламы ведаюць: каб рэклама была заўважана, яна павінна быць паўсюль. Выснова: годзе ляжаць на канапе.



Між іншым, ты можаш сябе прадэманстраваць і ў сацсетках! Напрыклад, прыняўшы ўдзел у якім-небудзь конкурсе. Ведаю гісторыю, у якой дзяўчынка Аляксандра, ёй 13, стала ўдзельніцай конкурсу «Мой гаспадар — нефармал», выклаўшы фота з пітомцам — вялізным чорным катом. Пад фотаздымкам адразу з'явіўся каментарый: «А каму кот падміргвае?» Яна адказала: «Нікому не падміргвае, у яго няма аднаго вочка». Хлопцу зрабілася няёмка, што ён таго не заўважыў, і пачаў выбачацца. Так між імі завязалася ліставанне, яны пасябравалі і на наступны дзень ужо гулялі разам.

Выснова? Дзейнічай! Як — ты ўжо ведаеш.

Мелодыя аднаго з вальсаў Моцарта (№ 3) з цыкла «Шэсць нямецкіх танцаў» стала музыкай для вядомай дзіцячай песенькі «Жылбыў у бабулечкі шэранькі козлік».

Непрыдуманыя гісторыі

Аўтар рубрыкі Галіна Богдан

Мастачка Алеся ГАЛОТА

# На парозе школы

Красавік надышоў нечакана, яскрава: сонца нагадала пра сябе асляпляльным чынам, апярэдзіўшы будзільнік. Так шмат абяцала, так вабіла. Прымушала рабіць глупствы і подзвігі.

Жыць бы ды радавацца. Але Максу не жылося. Апошнімі днямі ён хадзіў засмучаны. Дрэнна спаў. Страціў апетыт. І злаваў на вечна завіслы мадэм.

Мама крыўдзілася, настаўнікі прыдзіраліся, сябры чапляліся да кожнага слова. Кпілі. Жартавалі. А бывала, што і міма праходзілі. Каханая дзяўчына, адзіная і непаўторная, зрабілася раптам звычайнай. А галоўнае — абыякавай.

Дзённік замільгацеў «тройкамі». Ногі — сінякамі: і ў спорце Макс лавіў няўдачу за няўдачай.

— Чаго вытарашчылася? — крычаў ён сонцу з балкона. — Думаеш, мяне хвалюе гэта стаўленне да мяне?

Сапраўды, ці можна зачапіць нечым чалавека, які лічыць сябе круглым нулікам? Ці ўсё ж можна?

— Да заканчэння школы застаецца трошкі, а я не ведаю, што далей рабіць! А тут яшчэ Жорык са сваімі прапановамі.

Жорык ці Ягор Канарэйкін — гэта Максаў аднакласнік. З першага класа яны за адной партай. Разам каталіся ўзімку на санках. Разам на лыжы перайшлі. Разам рыхтавалі ўрокі. Ездзілі ў летнік. Заляцаліся да дзяўчынак.

Сябры не разлі вада. Так лічылі многія. Яны самі так лічылі. Чорная котка праслізнула між імі на вясновых канікулах. Макс лічыў, што з-за Жорыка. З-за яго кароткага і канкрэтнага: «Я ў палітэх. На прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва. Калі складзецца ўсё, то за каледжам будзе ўнівер. Прыкінь, праз сем гадоў архітэктарам стану. Адкрыем фірму. Будзем ляпіць праекты».

Які там палітэх! Макс ад нараджэння гуманітарый.

— Ты, бачу, вырашыў пайсці ў глухую? — ацаніў Жорык працяглую паўзу. — Каліся, чэл, куды лыжы кіруеш? Толькі не кажы, што ў дзясяты. Не паверу!

Ягор яшчэ нешта казаў. Усміхаўся настырна і нахабна. Крывіў вусны. Самаацэнка Макса падала. З кожным новым словам, з кожнай новай усмешкай. Ён ірвануў на сябе ранец і зацішыўся на апошняй парце.

Імкнуўся вызначыцца: куды ісці? І не атрымлівалася. Больш за тое, лічыў сябе лузерам.

Дома засеў за камп'ютар. З раздражненнем церабіў пошукавікі. І што? Нічога не спадабалася! Макс не ўяўляў нават, чаго хоча і да чаго мае здольнасці. Хацеў было да мамы звярнуцца. І перадумаў: не хапала ёй клопату!

— Сам разбяруся!

Але дні міналі, а праблема вырашацца не жадала. Наадварот, укаранялася...

***Каментарыі***

***Шкодная настаўніца:*** — Прывітанне, прыехалі! А дзе вы былі, мой цудоўны хлапец, калі вас па днях адчыненых дзвярэй вадзілі? Для вас жа школа стараецца! Запрашае, за ручкі водзіць. Нябось, адмовіўся ад наведвання пад штучнай нагодай. Цяпер жні пасеенае. А сябар твой — малайца! Час дарма не губляў. Упэўнена, што ён і да экзаменаў пачаў рыхтавацца. А ў вас што? Дзірка ад абаранка!

***Вопытны псіхолаг:*** — У нечым я згодна з калегай. Але засмучацца не трэба. У кожнай школе існуе сістэма працы над прафесійным самавызначэннем старшакласнікаў. У вашым выпадку яна, магчыма, дала збой. Што рабіць? Самае простае — звярнуцца да псіхолага. Звычайна, ён і курыруе гэта пытанне. Ён прапануе вам тэсты, інфармацыю пра навучальныя ўстановы і спецыяльнасці. Не забудзьце вызначыць запатрабаванасць выбранай прафесіі на рынку працы. Задумайцеся пра перспектывы: кар'ерны рост вельмі важны ў жыцці. Калі не здолееце вызначыцца, то лепш за ўсё працягнуць вучобу ў роднай школе. Паступіць можна і пасля дзясятага, і пасля адзінаццатага. Галоўнае — знайсці сябе ў моры прапаноў і запытанняў. А за кампанію з сябрам паступаць дакладна не варта — вы будуеце сваё жыццё, а не яго. У любым выпадку, пастарайцеся застацца сябрамі: такі рэчамі не кідаюцца. Пагаварыце з ім. Ён зразумее. Вось пабачыце!

А сённяшнім сямікласнікам сур'ёзна раю заняцца выбарам прафесіі ўжо на наступны год. Самы час, паверце спецыялісту.

***Прасунуты старшакласнік:*** Падумаеш, праблема! Сядзі сабе і ў вус не дзьмі! Хто цябе са школы выпіхвае? Калі нічога ў галаву не лезе, значыць, яшчэ не саспеў. Тут галоўнае з прафесіяй вызначыцца. У нечым твой сябар мае рацыю, а ў нечым — не. Не думай нават у той палітэх цягнуцца за ім. Не тваё — і ўсё! Толькі некалькі гадоў жыцця дарэмна загубіш. Некалі давядзецца з нуля пачынаць. А так — застанешся ў школе, распрацуеш страгэгію і будзеш ісці на вынік. Пасля адзінаццатага каледжы ніхто не адмяняў. А пашанцуе — паступіш у ВНУ. Пра дні адчыненых дзвярэй не забывай: штука карысная. Галоўнае — на свае вочы пабачыш, сваімі рукамі памацаеш сваю будучыню. Усёк? Будзь!

***Сімпатулька:*** Абажаю старшакласнікаў! Такія мілыя, такія дарослыя! Не падобныя ніколькі на мітуслівых дзевяцікласнікаў. Касцюмчык, стыльная кашуля, гальштук. Прычоскі мо-о-одныя. Твары разу-у-умныя. Супер! Дагэтуль шкадую, што пасля дзявятага пайшла. І памятай: наперадзе галоўная падзея школьнага жыцця — выпускны. Кажуць, гэта нешта! А там ужо і паступаць не страшна. Уяві: ты ўвесь такі разумны і прыгожы. А яшчэ дарослы і вопытны. Як такога не прыняць? Бяспройгрышны варыянт. Бусь-бусь, адлятаю!

***У чарговы раз нагадваем, што гэта рубрыка інтэрактыўная: ты, дружа, можаш пісаць сюды, звяртаючыся па парады або даючы іх іншым. Просім!***

***Цэнтральны савет Грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» прадстаўляюць творчасць удзельнікаў конкурсу***
«Ніколі не забудзем: унукі пра вайну»

# Я памятаю! Я ганаруся!

*Нарыс*

*Хай наўкол электроніка*
*І машын табуны, —*
*Плача тоненька-тоненька*
*У сэрцы голас вайны.*
*Пімен Панчанка*

У хвіліны складаных жыццёвых сітуацый мая маці заўсёды прыгаворвае: «Галоўнае, каб не было вайны». Мае рацыю.

Хоць яе пакаленне далёка не «дзеці вайны», але памяць пра тыя жудасныя часы не пакідае яе.

Заўтра нядзеля. Я ведаю, што раніцай мы едзем у вёску. Гэта традыцыя, якую не парушаюць у нашай сям'і на працягу многіх гадоў. Парэчча — радзіма бабулі Вольгі. Там жыве яе маці, мая прабабуля, Зоська. Там спачывае мой прадзед, слаўны салдат Якаў Міхайлавіч Пракопчык.

…Ён трапіў адразу на фронт, у самае пекла. Прайшло толькі паўтара года пасля яго вяселля з Зоськай. Без бацькі нарадзілася яго першая дачка, мая бабуля Марыя. Маці расказвала, што ў той дзень прадзед стаяў у траншэі і нейкая невядомая сіла прымусіла яго зрабіць колькі крокаў убок. Праз хвіліну на тым месцы, дзе ён стаяў, разарваўся снарад, а прадзеду аскепак ад яго закрануў толькі хлясцік на шынялі. Мая прабабуля вельмі верыць у Бога. І заўсёды гаворыць, што прадзеда выратавала яе малітва.

— Я заўсёды малілася за яго, сыночак, — расказвала мне Зоська. — Ніколі не хадзіла да варажбітак. А толькі малілася і плакала. І мой Якаў вярнуўся, з двума раненнямі, вярнуўся сярод нямногіх з нашай вёскі. Кожны дзень галасілі кабеты, якія атрымалі страшныя весткі з фронту.

Прадзед змагаўся ў складзе Першага Беларускага фронту. Як ён сам гаварыў, «цягаў «максіма». А пасля ранення выдаваў салдатам правізію. На жаль, мне не давялося самому распытаць яго пра складаны шлях да перамогі, таму ведаю пра яго ваенныя выпрабаванні толькі са слоў родных. Якаў Міхайлавіч сустрэў доўгачаканую перамогу ў Берліне. Адтуль і вярнуўся ў Парэчча. Прабабуля расказвала, што пасля абвяшчэння Перамогі людзі беглі ўсім сялом да сельсавета, не верылі, плакалі, крычалі на ўсю ваколіцу.

Па дарозе да роднай хаты сустрэў салдат бялявую дзяўчынку, паглядзеў на яе і пайшоў далей.

— А дзе ж наша Марылька? — спытаў ён потым жонку.

Аказалася, што малая на дарозе і была яго дачкой. Прабабуля і цяпер са слязьмі згадвае момант сустрэчы. Як пяшчотна Якаў трымаў дачку на руках, туліў да сябе, не мог адпусціць.

А маленькая Марылька яшчэ доўга пасля вайны хавалася ад самалётаў…

Аскепкі пасля ранення турбавалі прадзеда. Былі бальніцы, аперацыі. А трэба было працаваць, падымаць гаспадарку. Нараджаліся дзеці. Іх у сям'і Пракопчыкаў шасцёра. Зоська сядзела з імі дома,

на ёй — агарод, поле, хатняя гаспадарка, дзеці, а Якаў — пайшоў працаваць на лесапілку.

— Цяжкі быў час. Галодны, — распавядала мне прабабуля. — Не было часу на гаворкі. Таму і мала мы ведалі пра дзедавы геройствы на фронце. Ды і не хацеў ён нічога расказваць. «Абы каб не паўтарылася», — гаварыў. А я ўсё баюся, усё чакаю нечага дрэннага, не давядзі Гасподзь!

Не мог я ўбачыць і прадзедавы ўзнагароды. Спачатку, расказвалі родныя, ён апранаў пінжак з медалямі на 9 Мая, а потым аддаў узнагароды дзецям, каб гуляліся. Па словах аднаго з сыноў, ён меў ордэн Айчыннай вайны, ордэн «Перамога», медалі «За адвагу», «За ўзяцце Берліна».

Чым я магу аддзячыць Табе, мой слаўны продак? Што магу даць узамен за ўсё, што маю?

Прымі маю бязмерную ўдзячнасць, адчуй мой гонар за тое, што я — частка Тваёй сям'і. Дазволь зберагчы і пранесці праз час памяць пра слаўнага прадзеда Якава, каб яшчэ не адно пакаленне з нашага роду змагло расказаць пра той даўні след вайны ў сваёй радаслоўнай. І няхай на свята Вялікай Перамогі мільёнамі галасоў, нібыта святочным салютам, будуць гучаць словы нашай удзячнасці: «Я памятаю! Я ганаруся!».

***Ягор ФАДЗЕЕЎ,***
***15 гадоў, СШ № 1, Пінск***




Подпіс рэдактара

______________

Чаму ў Расіі цар, а ў Еўропе кароль? «Кароль» паходзіць ад імя Карла Вялікага, які ў пачатку IX стагоддзя заснаваў у Заходняй Еўропе вялізную дзяржаву. А «цар» — ад візантыйскага «цэсар» (ад імя Юлія Цэзара).





*Ішоў хлопцу трынаццаты год…*
*Ксенія Мядзведская, 12 гадоў, Магілёў*





*Успамін.*
*Дзяніс Дзядкоў, 10 гадоў, Барысаў*



*Юны Ціхан Баран паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна.*
*Анастасія Шыла, 15 гадоў, Магілёў*



*Іх дарослае дзяцінства.*
*Дзіяна Вікуліна, 10 гадоў, Барысаў*

# Вязень

*Запісаны ўспамін*

Ніколі не забудзем…

Каб не забыць, трэба ведаць. Для мяне гэта веданне пачалося з урокаў гісторыі маладой настаўніцы Марыі Мікалаеўны. Шмат чаго, акрамя «ўрочнага матэрыялу», яна нам расказвае. Адзін аповед мяне асабліва ўразіў. Гэта была гісторыя пра дзяцей Вялікай Айчыннай вайны.

І вось я разам з Марыяй Мікалаеўнай у невялічкай, утульнай гарадской кватэры Вольгі Данілаўны Жыхарка, напярэдадні Дня Сталых людзей. Нас сустрэла 83-гадовая сляпая жанчына. Яна мне адразу спадабалася — жвавасцю і добрым настроем. Я зразумела, што ёй ёсць што расказаць нам, тым, хто павінен ведаць пра дні і гады вайны, пра цяжкасці, якія выпалі на жыцці людзей цяпер ужо сталага ўзросту.

— Нарадзілася я летам 1931 года ў вёсцы Дубнавічы Пінскага раёна. У бацькоў нас было пяцёра: Вольга, Тадосія, Сафія, Акуліна і Павел. Жылі мы, як і ўсе сялянскія сем'і, многа працавалі, а галоўнае, што мелі, — любоў і павагу адно да аднаго.

Маё дзяцінства скончылася, калі стала вядома, што немцы «ўжо блізка». Яны перыядычна наведваліся ў вёску, але я сваімі вачыма іх доўга не бачыла: хварэла на адзёр і па гэтай прычыне шмат часу праводзіла ў хаце. Убачыла я іх зімой 1943 года, калі немцы пачалі наведвацца часцей. Гаварылі, што дубнавічане дапамагаюць партызанам. Памятаю, страх быў такі, што і цяпер у грудзях баліць, як успомню. Мы ўсе чамусьці хаваліся ў склепе. Сядзелі там так ціха, што, здавалася, і не дыхалі. Сядзелі моўчкі і маліліся, хто як умеў. Бацькі і старэйшыя дзеці збеглі ў лес. На вуліцы стаяў страшны гул ад крыкаў людзей. Потым мы пачулі страляніну.

У склепе праседзелі нядоўга, бо вярнуліся бацькі, якія, хаваючыся ў лесе, заўважылі пажар. Тых людзей, хто кідаўся тушыць свае хаты, сілаю кідалі ў агонь. Астатніх жыхароў вёскі, як статак жывёл, пагналі на чыгуначную станцыю ў Пара-

хонск. Амаль чатыры кіламетры мы ішлі пешшу нароўні з дарослымі. Не памятаю, каб мы плакалі.

З Парахонска ў таварных вагонах нас павезлі ў Пінск. Колькі мы там былі, не ведаю, але не было і хвіліны, каб мы не думалі, што хутка прыйдзе смерць. Пратрымалі нас у Пінску на «каранціне», а потым адправілі далей, у Брэст. І пачаўся доўгі шлях…

У Германіі мы апынуліся позняй восенню. Ехалі доўга, ежы і вады не хапала, я ўжо не кажу пра антысанітарыю. Прывезлі ў канцлагер, назву яго я не памятаю. Па прыбыцці туды нам зачыталі ўказ Гітлера, што мы застанемся ў жывых, а смерць наша заменена працай у сельскай гаспадарцы. З душы нібыта камень спаў. Але ўсё толькі пачыналася. Нас усіх, разам — і малых, і старых, і мужчын, і жанчын — адправілі ў адну лазню. Потым агледзеў урач. Усе былі кволыя пасля цяжкай дарогі.

Праз колькі дзён маю сям'ю з адзінаццаці чалавек забраў фермер з-пад Гамбурга, з мясцовасці Люнебург, звалі яго Бавар Шлютэр. Калі ён нас упершыню ўбачыў, то сказаў: «Гітлер з'ехаў з глуздоў, навошта ён прывёз гэтых людзей у Германію? Для работ хапіла б і ваеннапалонных».

Калі мы прыехалі на ферму, мне было ўжо поўных дванаццаць гадоў. Ад цяжкіх прац мяне выратаваў бацька. У дакументах ён напісаў, што мне дзевяць. Чым я займалася? У асноўным дапамагала маці ў прыгатаванні ежы для ўсёй нашай сям'і. Глядзела за малодшымі. Насіла бульбу і дровы: як зараз памятаю доўгі шлях — адзін кіламетр. Тата, брат з жонкай і сёстры цэлымі днямі працавалі ў полі. Скончыць працу раней ім нельга было: за ўсім сачыў Шлютэр.

Дні цягнуліся доўга. Часам здавалася, што мы заўсёды жылі ў Германіі. Нямецкая мова адразу ўбілася ў дзіцячы розум. Мы хутчэй на ёй загаварылі, чым дарослыя. Толькі адна асалода была ў нас — успамін пра Радзіму.

Бавар Шлютэр над намі не здзекаваўся. Ставіўся нядрэнна, толькі трэба было выконваць усе загады і працаваць. Грошай нам ніхто не даваў, мы іх і не бачылі. Кожны месяц атрымлівалі карткі і прадукты. Добра памятаю, як збіралі масла, каб памяняць на адзенне. Дванаццаць пачак масла — паліто. Потым даведаліся, што гэта



*Ветэран.*
*Алена Федасюк, 9 гадоў, Брэст*



*Прамень надзеі.*
*Надзея Судзілоўская, 14 гадоў, Родня*





*Юныя партызаны.*
*Лізавета Цішкевіч, 13 гадоў, Горы*





*Ідзём у вечнасць.*
*Дзіяна Казак, 14 гадоў, Брэст*

***Ілюстрацыі: праект «Герои никогда не умирают, герои в нашей памяти живут» Грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя»***

адзенне прадавалі марадзёры. Яны здымалі яго з забітых падчас бамбёжак.

Канешне, у дзяцей не адбярэш жадання пабегаць, пагуляць з аднагодкамі, знайсці сяброў. Маімі сябрамі былі дзеці немцаў. Я іх усіх памятаю, такімі, якімі бачыла ў апошнія дні.

Бамбілі па начах. Немцы гаварылі, што амерыканцы хочуць нас знішчыць.

Вызвалілі вязняў прыкладна ў красавіку 1945-га амерыканцы і англічане. Доўга я не магла развітацца з сябрамі. У памяці назаўсёды засталіся валуны пры дарозе, на іх мы сядзім і галосім наўзрыд. Я ім праз слёзы гаварыла, што надышоў час развітацца, што мы ўжо едзем на Радзіму. Яны ў адзін голас: «Мы паедзем з табой, на тваю Радзіму». Я смела магу і хачу сказаць, што ў нас было сапраўднае сяброўства.

І зноў дарога. Цяжкая, з вялікімі перапынкамі. Прывезлі нас у Брэст, адтуль у Пінск. У Дубнавічы мы вярнуліся позняй восенню на пакінутае карнікамі папялішча. Жылі ў зямлянках. З цягам часу пачалі аднаўляць гаспадарку. Купілі недзе старую хату, жыццё працягвалася.

Як гаварыла, яшчэ да вайны я хварэла на адзёр. Хвароба адбілася на вачах. З гадамі я стала вельмі дрэнна бачыць, а зараз і наогул аслепла. Працавала я многа і цяжка: шыла коўдры ў таварыстве сляпых. Лёс не падарыў мне дзяцей, але я ніколі не была адна, у мяне шмат пляменнікаў, унукаў і нават праўнукаў. Яны мяне ніколі не забываюць.

Я пражыла доўгае жыццё. Хто-небудзь скажа, што яно ў мяне цяжкае, хто-небудзь пашкадуе. А я ведаю, што кожнаму чалавеку Бог дае толькі тыя выпрабаванні, якія ён здолее перажыць.

Маё самае галоўнае пажаданне вам, маладым, каб не давялося ўбачыць і перажыць тое, што прыйшлося перажыць нам. Жывіце, любіце, старанна вучыцеся, паважайце бацькоў і памятайце гісторыю сваёй Радзімы.

***Эліна БОГДАН,***
***6 клас, Гарадзішчанская СШ, Пінскі раён***




Подпіс рэдактара

*Напішы як Арына Карповіч — і станеш аўтарам калонкі!*


Арына Карповіч

# З Хемінгуэем прасцей

Калі пачынаеш чытаць кнігу, то патрэбен час, каб даверыцца аўтару, пайсці за ім без аглядкі, звыкнуць да герояў, трапіць у напісаную рэальнасць. З Хемінгуэем прасцей. Напэўна таму, што ён пачынае свой твор проста, нязмушана, нават будзённа. І адразу адчуваеш сябе побач, уяўляеш халодны Парыж з яго ўтульнымі кавярнямі, і вярнуцца адтуль у рэчаіснасць будзе складана.

Чытаючы Хемінгуэя, хочацца пісаць самому. Ты адчуваеш пошук ідэі, натхненне, няўдачы ці бурную працу. І адразу хочацца пайсці і напісаць, адчуць тую самую стомленасць і радасць ад зробленага. Хемінгуэй дакладна падмеціў, што пасля працы адчуваеш сябе спустошаным. Мне здаецца, што калі ты насамрэч стомлены, калі ўнутры цябе на нейкі час няма нічога, значыць, ты сапраўды папрацаваў добра. Так, выдахся, але недарэмна.

Увогуле, цікава чытаць пра тое, як пішуць іншыя. Для мяне было дзіўна, што мой працэс працы нагадвае працу Хемінгуэя. Напрыклад, мне прасцей думаць падчас шпацыру: я рухаюся — і думкі быццам робяць тое самае. Або калі ты захоплены напісаннем апавядання, то вельмі цяжка спыніць яго, як сказана ў кнізе, «забіць апавяданне».

Мне здаецца, гэта кніга можа дапамагчы тым, хто хоча пісаць. У ёй шмат важкіх парад, якія насамрэч спатрэбяцца. Хемінгуэй не павучае, гэта само атрымліваецца. Апісанні яго вельмі праўдзівыя. Чытаеш яго прыроду — і яна перад вачыма. Людзі таксама прапрацаваны, быццам добра знаёмыя. Хемінгуэй маляваў дэталі, а ты чытаеш — і бачыш карціну цалкам. Кніга не перагружана апісаннямі, але іх у ёй дастаткова.

Пра Парыж Хемінгуэй распавядае так, што не фантазіруе, не будуе для чытача ілюзіі дзеля «прыгожай карцінкі», а вельмі адкрыта і праўдзіва распавядае пра горад. Піша, як дрэнна быць бедным менавіта ў Парыжы, або пра голад, які мае разнавіднасці, але ў той самы час гаворыць пра тое, што нават у сваёй беднасці ён быў шчаслівы. Горад паказаны рэальна, з усімі яго недахопамі, дрэнным надвор'ем, непрыемнымі людзьмі, побытавымі праблемамі, але і з прыгожымі відарысамі, музеямі і сапраўдным, жывым і жаданым жыццём.

***Пра якую кнігу Хемінгуэя распавяла Арына Карповіч? Правільны адказ дае магчымасць атрымаць ад рэдакцыі сувенір!***

У панамскім горадзе Сан-Блас захаваўся цікавы звычай: там дзяўчынкі, якім не споўнілася 12 гадоў, не маюць імёнаў. Іх называюць «кветачкамі». І толькі ў 12 гадоў яны атрымліваюць сапраўдныя жаночыя імёны.



*Прывітанне, «Бярозка»! Упершыню пішу да цябе. Хачу распавесці пра мясціну, дзе бываю кожнае лета. Мне там вельмі падабаецца. Можа, мая гісторыя спадабаецца чытачам «Бярозкі», і яны таксама раскажуць пра свае любімыя куточкі Беларусі.*





# Кропка на карце

У гэтым годзе мы пачалі вывучаць новы вельмі цікавы прадмет «Мая Радзіма — Беларусь». І я вырашыла напісаць пра родную для мяне мясціну. Кожны раз, калі гляджу на карту маёй Радзімы, то шукаю там невялікі гарадок, назва якому Копысь.

Ён нават старэйшы за Мінск! Першае ўпамінанне пра гэты населены пункт адносіцца да 1059 года. Размешчаны на беразе Дняпра, ён быў прыпынкам на «шляху з варагаў у грэкі»*. Потым уваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Калі я стаю на беразе Дняпра, то ўяўляю гістарычныя падзеі.

Мяне вельмі ўразіў герб горада: на ім адлюстравана жывёла, якой даўно не існуе, — чорны заяц. У даўніну Копысь жартам называлі заечай сталіцай, таму што ў мясцовых ваколіцах вадзіліся зайцы. Менавіта чорныя. Шкада, што цяпер іх няма.

Яшчэ адна копыская славутасць — Пятроўскі вал, месца былога паселішча, захаванае са старажытных часоў. Называецца Пятроўскім, бо ў гэтым гарадку спыняўся з войскам рускі цар Пётр І.

На ўскраіне Копысі, каля лесу, знаходзіцца святая крыніца. Вада ў ёй вельмі халодная і празрыстая. Яна быццам крышталёвая. Праз яе відаць пясок, які падыма-

***Шлях з варагаў у грэкі.** Так, калі ты яшчэ не ведаеш, называўся водны шлях ад Балтыйскага мора праз Усходнюю Еўропу ў Візантыю. Пра варагаў і грэкаў пачытай, дружа, больш падрабязна ў спецыяльнай літаратуры. Цікавыя існуюць інтэрпрэтацыі!*

ецца ўгору і струменіць новую ваду. Каля крыніцы ціха, чуваць толькі цурчанне вады, птушыныя перазвоны, стракатанне конікаў. І кветкі, цудоўныя лугавыя кветкі, цвітуць вакол крыніцы і напаўняюць паветра прыемным водарам.

За пасёлкам знаходзіцца дача Янкі Купалы — Ляўкі. Гэта дом у два паверхі, у якім размешчаны музей. Побач — гараж і машына: на такой ездзіў пісьменнік. Вакол дома раскінуўся прыгожы парк, у глыбіні якога можна бачыць помнік паэту. Янка Купала сядзіць на лаўцы. Маці прапанавала мне сесці побач, каб сфатаграфавацца. Але тады я была маленькай і вельмі баялася садзіцца каля вялікай постаці славутага паэта. Але як прыемна было прайсціся па тых сцяжынках, дзе ён хадзіў.

Цяпер я кожны год чакаю купальскае свята, якое праходзіць на суседнім беразе Дняпра ў вёсцы Александрыя. На гэта свята, якое называецца «Александрыя збірае сяброў», сапраўды збіраюцца сябры. Дзяўчаты плятуць вянкі і пускаюць на ваду. У горадзе майстроў можна разгледзець кросны, на якіх жанчыны ткалі палотны. Мне давялося пабачыць станок для друкавання кніг, саламяных павукоў, сплеценыя з саломы кветкі і скрынкі. А ўвечары мы слухалі грандыёзны канцэрт. Ноччу на беразе ракі запалілі вогнішчы. Вакол іх дзяўчаты вадзілі карагоды. Свята працягвалася да раніцы.

І не трэба ехаць за мяжу, каб глядзець на славутасці іншых краін. Ёсць вельмі шмат прыгожых і цікавых мясцін на нашай Беларусі.

***Таццяна ТРАЦЭЎСКАЯ***
***4 клас, гімназія № 29, Мінск***

# Азіраючыся

Успамінаю маленства… Памятаю, як прабабуля чакала, калі бацькі дазволяць мне пагасціць у яе. З нецярпеннем чакала гэтага і я. Ведала, што прабабуля зноў будзе расказваць цікавае: казкі, легенды, гісторыі з жыцця. Асабліва я любіла, калі надыходзіў час бабулінай калыханкі.

Люлі, люлі, люлі,
Пойдзем да бабулі.
Дасць бабуля млечка
І ў ручку яечка.
Яшчэ таго мала
Дасць кусочак сала.

Калыханкі пра жывёл выхоўваюць жаданне дапамагчы ў няшчасці, выручыць з бяды:

А-а-а, каткі два:
Шэры, буры, малышы.
Адзін пайшоў па мышы,
Другі малога калышы.

Калыханка — старадаўні від творчасці. Спяваюць калыханкі, каб супакоіць дзіця, каб яно хутчэй заснула. Напэўна, таму і мелодыя іх плаўная, цягучая.

Спі, дзіця маё раднóе,
Баюшкі-баю.
Ціха свеціць месяц ясны
У калысачку тваю.
Багатыр ты будзеш з віду
І казак душой,
Выпраўляць цябе я выйду,
Ты ж махнеш рукой.



*Мастачка Алеся ГАЛОТА*

Дам табе я ў дарогу
Абразок святы.
Ты ж яму маліся Богу,
Каб не было бяды.

Я часта ўспамінаю словы маёй любімай, хоць і невялічкай калыханкі, якую мая прабабуля спявала з асаблівай любоўю і цеплынёй:

Люлі, люлі, люлі, спаць,
А я буду калыхаць
Любую ўнучачку,
Мілую пястушачку.

Азіраючыся назад, у маленства, я разумею, што менавіта тыя хвіліны, якія правяла разам са сваёй прабабуляй, сталі для мяне сапраўдным выхаваннем.

***Юлія ЯНУКОВІЧ,***
***11 клас, Параф'янаўская СШ,***
***Докшыцкі раён***

Мастачка Юлія УСАВА




# Адкрыццяў дзіўных, яркіх вам!

## ПОМНІК ГЕРОЮ

Герою з Масквы ці з-за Дона,
Майму земляку ці з-за Волгі
Пад юным зажураным клёнам
Стаіць абеліск ля дарогі.
Далёка ад роднага краю
Сцяжыну яго абарвала
Тупая варожая куля.
Хавала яго не матуля.
Салют не грымеў над грудком —
Хавалі салдата цішком
Уночы жанчыны-сялянкі
На мужнай зямлі партызанскай.
Не быў ён знаёмы нікому,

Застаўся таму невядомы.
У Дзень Перамогі пагожы
Абнеслі грудок агароджай.
Чырвоная гордая зорка
Заззяла над сумным пагоркам.
Удовы з адноўленай вёскі
Пасеялі побач валошкі,
Маленькую лаўку зрабілі
І клён малады пасадзілі.

Расце ён, салдату спявае
Пра свята 9 Мая.

## РОДНАЯ МОВА

У горадзе,
Між ніў жытнёвых,
У важным доме,
Сціплай хаце
Не забывайце
Роднай мовы —
Для нас навек яна,
Як маці.

Каб свет
Чароўнай прыгажосцю
Вас ні на момант
Не пакінуў,
Шануйце мову
Не як госцю,
А як матулю,
Гаспадыню.

## КНІГА

Нам кніга — вечнае святло,
Крыніца ведаў, цуд бясконцы!
І параўнацца з ёй магло б,
Відаць, у свеце толькі сонца.

О, я нікольki не хлушу,
З яе ствараючы куміра, —
Нішто не жывіць так душу,
Не ўзбагачае гэтак шчыра.

Яе вялікасць, заўсягды
Яна — дарадца, сябар чуйны.
Дасць нам глыток жывой вады,
Кране святыя ў сэрцы струны…

Адкрые безліч таямніц,
Дасць у палёт жывыя крылы,
Навучыць радасна любіць
Бацькоўскі край, адзіны, мілы…

І я жадаю ад душы:
Сябруйце ўдзячна з ёй, натхнёна.
Разумным, светлым, вечным жыць —
Што больш каштоўнае сягоння?

Агучваць чыстыя званы
Дабра, стваральнасці, сумлення,
Каб пабуджалі нас яны
Да працы, згоды, узвышэння.

Адкрыццяў дзіўных, яркіх вам!
Хай будзе кожны крок ваш новы
Прыступкай сонечнай у храм
Пазнання, хараства, любові!

## НАШ СЦЯГ

Мы захапляемся
Колерам белым —
Снег як узімку
Зямлю ўсю засцеле,
Калі пахкі вэлюм
Сады атуляе.
Колерам белым
Мы волю ўслаўляем.
Любім вясновы
Зялёны колер,
Калі адмыслова
Квітнее ваколле,
Калі ўся прырода
І рупная ніва
Пра мір і пра згоду
Спяваюць шчасліва.
А колер чырвоны —
Колер світання.

За поступ наш годны —
Сімвал змагання,
Агню і трывогі,
І кроўнага брацтва,
Цяжкой Перамогі —
Святога багацця.
Таму ў нашым Сцягу
Тры колеры маем.
Сардэчнасць, адвагу,
Мір, працу вітаем.

## ЗАЎЖДЫ ВЯРНУСЯ

Прыеду я абавязкова
У той любімы мой куток,
Дзе першае прамовіў слова,
Дзе я зрабіў свой першы крок.

Прыеду, каб адчуць душою,
Як веюць водарам лугі,
Аб чым шапоча над ракою
Лес, сябар мой найдарагі.

Зноў басанож прайду сцяжынай,
Дзе па брыльянтах спелых рос
З сябрамі бегаў у ажыны
І слухаў музыку бяроз.

Я роднай вёсцы пакланюся,
Зямлі прыгожай, маладой
І землякам — руплівым людзям,
Адданы ім усёй душой.

Там шум жытоў і квецень бульбы,
Блакітам цёплым лён цвіце...
З усіх дарог я, край мой любы,
Заўжды вярнуся да цябе.

***Міхась ПАЗНЯКОЎ***

***Міхась Пазнякоў — вядомы беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і мовазнаўца. Шмат піша для дзяцей і падлеткаў.***

# Старшынька



*Мастачка Алеся ГАЛОТА*

1

Лёшка быў класным хлопцам. Неяк мне, гуляючы каля плота старшынёвага двара, удалося падслухаць размову Лёшкі і яго маці:

— Лёшка, чаму ты апранаеш гэтую старую кашулю? Бацька табе новую вельветку прывёз, а ты і тую, што ў клетку, не носіш. А яна, дарэчы, табе вельмі да твару…

— Я хачу такую кашулю, якую носяць усе нашы хлопчыкі.

— Гм… Не ўсе бацькі маюць магчымасць купляць такія кашулі.

— А я не хачу быць белай варонай. Мяне і так за вочы старшынькай называюць. А я такі ж чалавек, як і ўсе!

Ад таго часу я пачаў ставіцца да Лёшкі з асаблівай павагай. Ды і раней заўважаў, што ён саромеецца свайго паходжання, з усёй сілы стараецца даказаць, што такі, як усе. І на рацэ заплываў у самыя глыбокія месцы, нават на могілкі апоўначы хадзіў, калі ў вёсцы прыдумалі, што бачылі там нейкага белага дзядка. Аднойчы адбыўся незвычайны выпадак…

Быў на нашай калгаснай стайні жарабец па клічцы Лорд, якога прывезлі

з расійскага конезавода. Высокі, статны, гладкі, скура блішчала быццам маслам намазаная, але і вельмі капрызны. Ніхто не ведаў, што ён мог выкінуць. Аб'язджаць яго не спяшаліся, можа, пабойваліся.

І вось аднойчы мы, хлапчукі, выкупаўшыся ў вірку, што знаходзіўся непадалёк ад стайні, ішлі дамоў, зрываючы сакавітыя галоўкі ярка-чырвонай канюшыны. З іх выцягвалі прадаўгаватыя пялёсткі, у ножках якіх знаходзіўся салодкі нектар. Сярод нас быў і Лёшка. Мы ішлі праз луг, адкуль конюх Цярэх забіраў Лорда на вадапой, а пасля, у самаю спёку, адводзіў на стайню.

— А вось каб хто б з вас праехаўся на Лордзе, то быў бы сапраўдны герой, — як заўсёды, завёў даўгавязы, з бела-жоўтымі кудзеркамі вясковы задзіра Міхась Жук.

— Знайшоў дурняў! — паморшчыўся на яго словы рыжы Кіруха Забаронак, якога паважалі як «няборнага» перацягчыка на жэрдках. — Смерці, пэўна, нечай захацеў?

— А-а-а, вось і слабо! — зарагатаў на ўсё горла Міхась. — То-та ж!

— А вось і не слабо! — раптам пачуў я побач з сабой Лёшкаў голас.

— Ета хто там за смяльчак знайшоўся? — задраў галаву Міхась. — Мне нават страшна паглядзець на яго!

— Гэта я, — падняў руку Лёшка.

— Старшынька?! — шчокі Міхася зморшчыліся, быццам ён толькі што з'еў кіслы яблык.

— Я, — паўтарыў Лёшка і, ступіўшы на лугавіну, стаў набліжацца да конюха.

— Лёшка! — хацеў спыніць яго я. — Не трэба…

Але я ведаў характар Лёшкі: у такія хвіліны яго нельга было спыніць.

— Смяротнік! — крыкнуў услед Кіруха, якому стала шкада Лёшку.

А Лёшка ўжо набліжаўся да конюха з жарабцом. Лорд карычневым вокам касіўся на Лёшку, час ад часу прысядаючы на задняя ногі.

«Смяротнік! — падумаў і я. — Пайсці на такое, і навошта?»

— Ты што, Лёшка? — на імгненне прыпыніўся конюх Цярэх. — Пагладзіць жадаеш Лорда?

— Я хачу праехацца на ім да стайні.

— Што?! — вочы конюха зрабіліся круглымі, быццам талеркі. — А ты ведаеш, што мы яго толькі пачалі аб'язджаць? Гэта ж — звярына!

— Я толькі да стайні! І вы ж будзеце весці яго…

— Лёшка! Я баюся… — конюх хацеў яшчэ нешта сказаць, але ў тое ж імгненне хлопец, пагладзіўшы жарабца па шыі, спрытна скочыў яму на спіну.

Мы так і застылі, шырока разявіўшы раты.

— Матуля мая! — прашаптаў Кіруха. — Ну, старшынька, канец табе!

— Дзядзька Цярэх, адпусціце вотчуп, — папрасіў Лёшка.

— Яшчэ чаго, — хрыплым голасам адказаў той.

На агульнае здзіўленне, жарабец вёў сябе вельмі спакойна, нават перастаў прысядаць на задняя ногі…

Ужо каля варот стайні Лёшка саскочыў з жарабца, зноў пагладзіў яго па шыі і марудна пакрочыў да нас.

— Ну, старшынька, ты і даеш! — пакруціў галавой Кіруха і першым моцна паціснуў Лёшку руку.

— Малаток! — прамовіў Міхась.

— І навошта табе гэта? — спытаў я. — Пападзе ж ад бацькі…

Праз два дні, калі мы зноў ішлі на раку, я спытаў Лёшку:

— Ці была табе лазня ад бацькі?

— Не… Увесь вечар ён маўчаў, а пад канец пасадзіў за свой стол і сказаў строга: «Любая рызыка павінна мець разумны сэнс! А тое, што ты зрабіў, — дзіцячае выхвалянне і толькі!»

— І больш нічога не казаў?

— Больш нічога…



Мастачка Алеся ГАЛОТА

2

Вайна прыйшла нечакана… Я і Лёшка закончылі шосты клас, марылі ў наступным годзе падаць дакументы ў чыгуначны тэхнікум. Мо таму, што ад нашай вёскі да станцыі Орша ўсяго дваццаць кіламетраў. Нашы бацькі, у тым ліку мой і Лёшкаў, старшыня Іван Максімавіч, на другі дзень вайны былі ў ваенкамаце. Лёшка з сёстрамі і маці хутка з'ехалі ў суседнюю вёску да цёткі Таццяны. Пэўна, Іван Максімавіч рэкамендаваў такі варыянт, бо сям'і старшыні калгаса заставацца на месцы было небяспечна. Адлегласць паміж вёскамі — усяго пяць кіламетраў, і мы з Лёшкам часта бегалі адзін да аднаго ў госці. Неўзабаве хату старшыні калгаса засяліў паліцай Мікіта Старожак, чалавек пануры, з цяжкім паглядам.

Хлапчукі разведалі месца, дзе адбыўся бой паміж нашымі і нямецкімі войскамі. Там можна было сабраць нейкую зброю. Хутка ў нас назбіралася чатыры нямецкія аўтаматы, ручны кулямёт, пяць савецкіх вінтовак і два пісталеты. Зразумела, знайшлі мы і патроны. Арганізавалася таемная група: я, Міхась Жук, Кіруха, Лёшка і двое яго новых сяброў з суседняй вёскі — Андрэй і Сяргей. Два разы мы надвячоркам хадзілі ў бярозавы гаёк, дзе стралялі па самаробных мішэнях.

У пачатку чэрвеня сорак другога года нямецкія саладаты з паліцаямі зрабілі ў навакольных вёсках аблаву, каб адабраць людзей для адпраўкі на работу ў Германію. Усіх схопленых немцамі сабралі ў цялячай загародцы каля былой калгаснай фермы. Мы з Кірухам з агародаў назіралі за гэтымі падзеямі. Жаночы плач і енк далятаў да нас.

— Гады! — шаптаў, сціснуўшы маё плячо Кіруха. — Вось бы стукнуць па немцах з аўтаматаў ды вызваліць нашых людзей.

— Вунь дзе яны!

Кіруха і я пачулі за спінамі голас Лёшкі. З ім былі Андрэй і Міхась Жук.

— Хутчэй за намі!

— Куды? — спытаў я.

— Трэба бабахнуць па немцах! — рашуча прамовіў Лёшка. — Мы перацягнулі зброю ў лагчыну да Гайкавай сцежкі.

Я не паспеў пракруціць яго словы ў галаве, як мы ўжо імчалі па хмызняку.

— Там хутка пройдзе калона, тады з кустоў і бабахнем! — выклаў план Лёшка. — Бабахнем, а там, я думаю, немцы разбягуцца, падумаюць, што гэта партызаны. І нашым людзям будзе дзе схавацца ў гаі…

Цяжка дыхаючы, мы неўзабаве апынуліся ў лагчыне, дзе нас ужо чакалі хлапчукі з суседняй вёскі, Андрэй і Сяргей.

— Усе ўмееце страляць? — сурова, па-камандзірску агледзеў нас Лёшка.

— А як жа, — за ўсіх адказаў Кіруха.

— Трэба зрабіць як мага болей шуму, як толькі калона наблізіцца да гайка. І страляць прыцэльна, каб нашых не зачапіць.

— Драпануць немцы, — запэўніў нас Андрэй. — Падумаюць, што на партызан нарваліся. Яны толькі на выгляд смелыя, а калі аднойчы ў суседняй вёсцы хтосьці стрэліў на водшыбе, дык беглі з вёскі — толькі пяткі блішчалі…

Разважаць не было калі: калона з вязнямі марудна набліжалася да нас. Немцы і паліцаі ішлі ўпэўнена. Адзін з фашыстаў, падміргваючы жанчынам, найграваў на губным гармоніку, другі спрабаваў штосьці падпяваць.

Першыя рады калоны ступілі ў зацень гайка. І тут стрэліў з аўтамата Лёшка. Я таксама браў на прыцэл немца. Побач стракаталі іншыя аўтаматы. Такога немцы, зразумела, не чакалі. Пэўна, ім здалося, што яны трапілі ў засаду вялікага партызанскага атрада. Замітусіўшыся, кінуўшы калону, паімчалі ў бок вёскі. Але там іх раптам сустрэў новы агонь! Мы не разумелі, у чым справа, бо ўжо не стралялі, каб не параніць сваіх.

— Хлопцы! — крыкнуў радасна Кіруха, які першым угледзеў партызан.

Купка немцаў і паліцаяў стаяла пасярод дарогі, падняўшы рукі.

— Ага, тут новы партызанскі атрад! — пачулі мы мужчынскі голас. Усе ўздрыгнулі.

— А страляць не баяліся, баявыя сябры? Хто з вас да гэтага даўмеўся?..

— Вось, старшынька, — паказаў на Лёшку Міхась Жук.

— Старшынька? — усміхнуўся партызан з чорнай барадой. — А вы добра выбралі накірунак для бою. Мы ж да гэтага месца не паспелі даімчаць, бо позна паступілі звесткі пра аблаву. А вы — малайцы! Толькі дзе вы зброю здабылі?

— Ля Лешчанскай поймы, — адказаў Лёшка. — На месцы бою…

— Гэ! Нам казалі, што хтосьці там ужо пабываў, — сказаў малады партызан. — Шустрыя хлопцы!

— А возьмеце нас у атрад? — выпаліў Лёшка.

— У атрад? — прамовіў барадаты. — Трэба памазгаваць.

— Геройскія хлопцы, — адказаў трэці партызан. — Я б іх узяў.

— Вось даложым камандзіру і хай ён прымае рашэнне.

— А табе, старшынька, давядзецца ісці з намі, — падміргнуў Лёшку барадаты партызан. — Ёсць звесткі, што цябе шукаюць немцы. Ды і ў нас для цябе ёсць навіна.

Мы не ведалі, што камандзірам гэтага партызанскага атрада быў Лёшкаў бацька. А праз тры месяцы ўжо арганізавалі ў гэтым атрадзе асобную падрыўную групу, якую, дарэчы, узначаліў Лёшка, наш старшынька…

***Канстанцін НІЛАЎ***

***Пісьменнік Канстанцін Нілаў жыве ў Оршы. Піша вершы, апавяданні, п’есы і тэксты для песень.***





# Медаль

Мастачка Алеся ГАЛОТА

— І перамагае каманда…

— Ну, няхай жа… няхай… — шаптала яна, баючыся нават расплюшчыць вочы, пакуль не пачуе вынік.

— Каманда «Зорачкі»!

Голас настаўніцы патануў у лавіне дзіцячых воклічаў.

Рыта скакала і крычала разам з усімі, прыціскаючы далонькі да вушэй, а яе пшанічныя коскі весела падскоквалі разам з маленькай гаспадыняй. Гэта была яе самая першая школьная перамога, і радасная ўсмешка не сыходзіла з дзіцячага тварыка…

— Каманда пераможцаў атрымлівае… Залатыя медалі! Не звычайныя, а шакаладныя! Але толькі тады, калі ўсе стануць у адзін рад.

Рыта сціснула кулачкі ў чаканні сваёй чаргі, а Ганна Міхайлаўна высыпала з пакета на паднос цэлую гару бліскучых жоўтых медалёў і накіравалася да першакласнікаў. Калі яна падышла да Рыты, на падносе было яшчэ шмат узнагарод… І ўсхваляваныя вачаняты дзіцяці пачалі мітусліва выбіраць «самы-самы»…

— Ну, давай, Маргарыта! — падбадзёрыла настаўніца. — Выбірай хутчэй. Бачыш жа, астатнія чакаюць!

Дзяўчынка зноўку прыжмурылася, паклала руку на медалькі і ўзяла адзін. І толькі калі настаўніца адправіла пераможцаў за парты, Рыта паклала медалёк перад сабой і пачала любавацца прызам. «Які ж прыгожы!» — захаплялася яна.

Медалёк быў цяжкі і цвёрды, з пукатай адзінкай на адным баку і двухгаловым арлом на другім. Бок медалька быў няроўным з-за густых складак фольгі.

— Гэта герб нашай краіны: арол з дзвюма галовамі, мне тата казаў! — данеслася збоку.

Рыта крыху скасавурыла вочы і ўбачыла зусім побач кірпаты нос Ягора, свайго суседа па парце.

— Мне на Новы год аж некалькі такіх падаравалі! — як мага больш абыякава працягнуў ён.

— І што?! — адсунуўшы медальку, адазвалася Рыта. — Як быццам мне не дарылі! Але ж тыя зусім іншыя, разумееш? Гэтыя — сапраўдныя, таму што мы перамаглі! А тыя… ды яны зусім-зусім несапраўдныя! Проста падарункавыя, вось!

— Якая розніца?! — буркнуў, адварочваючыся, Ягор. — А вось мне мама сёння «кіндэр» купіць! І не за нейкую там перамогу, а проста так! Таму што мяне любіць!

Але Рыта ўжо не слухала пакрыўджанае бурчанне суседа. Яна ўяўляла, як пакажа свой медаль маме, а вечарам — тату з бабуляй. І як усе яны будуць усміхацца і віншаваць яе, а яна будзе пераказваць ім пытанні віктарыны, у якой яе каманда атрымала гэту ганаровую ўзнагароду.

Пакуль яна так уяўляла, у класе ішло бурнае абмеркаванне пад шоргат фольгі. Большасць дзяцей з'ела шакаладкі, беспаспяхова спрабуючы зноўку злучыць дзве часткі фанціка. Самы знаходлівы — Мацвей — прадзіравіў фольгу алоўкам і нанізаў яе на вяровачку з крыжыкам. «Як у сапраўднага спартсмена!» — крычаў ён, у пераможным жэсце ўскідваючы над галавой рукі.

Рыта з усмешкай аглядала клас, радуючыся за кожнага не менш, чым за сябе, з той шчырай дзіцячай дабрынёй, якая звычайна раствараецца потым, па меры набліжэння да падлеткавага ўзросту, у такім непазбежным патоку крыўды і расчаравання. Яна паклала свой трафей у пенал і ўвесь наступны ўрок спадцішка пазірала на бліскучы акрайчык.

На вялікім перапынку дзяўчаты пабеглі ў калідор. Вера абяцала паказаць, як навучыцца «рабіць кола». Новыя эмоцыі перапаўнялі дзяцей, якія з захапленнемназіралі неверагодную гнуткасць аднакласніцы.

Празвінеў званок — і ўсе зноў заспяшаліся ў клас. Рыта, падбегшы да сваёй парты, таропка зашаптала Ягору: «Там Вера… такое кола паказвала! Яна… яна сказала, што на прадлёнцы нас будзе вучыць! А ты ўмееш? Кола рабіць умееш?»

Пачуўшы ў адказ штосьці неразборлівае, дзяўчынка зірнула на Ягора і здзіўлена змоўкла. Ягор таропка штосьці даядаў, а ў левым ягоным кулаку Рыта заўважыла бліскучую жоўтую фольгу.

— А ў цябе адкуль медаль? — яна здзіўлена ўзняла бровы. — Вы ж не перамаглі, а медалі — толькі пераможцам…

Рыце нават крыўдна стала, што камусьці ўзнагарода дасталася проста так. Мама ж казала, што ўсё павінна быць па справядлівасці…

— Які ж гэта медаль?! — чамусьці хаваючы вочы, прагаварыў Ягор. — Так, шакаладка звычайная. Цукерка, іншымі словамі… Шакаладная… Так, шакаладная цукерка… Вось…

Ягор змоўк, абцёр рот далонькай і засунуў фанцік у кішэню.

* * *

— Сонейка маё, знайшла з-за чаго так плакаць! — мама пяшчотна прыціскала да сябе няўцешную Рыту, якая аж скаланалася ад усхліпванняў.

— Я… Я хацела… Хацела вам усім паказаць! Каб вы ўбачылі і паверылі, што мы перамаглі!

Слёзы самі па сабе сцякалі струменьчыкамі па шчочках і шыйцы, закатваючыся за каўнерык блузкі.

— Зайка мая! Ды я і так веру, што вы перамаглі! Ты мая разумніца! Я табой ганаруся! І дома мы ўсім раскажам! Ну, хопіць плакаць, ты ў нас малайчына! Давай я табе яшчэ адзін медаль куплю. Такі ж… ты яго заслужыла!

Мама дастала з кішэні папяровую сурвэтку і пяшчотна прамакнула вільготныя шчочкі дачкі.

— Гэта будзе зусім не тое, мамачка, як жа ты не разумееш! Бо той жа быў пераможным, а гэты будзе за проста так! Яго Ягор з'еў — ні за што!

Рыце было вельмі крыўдна, што ўсё выйшла зусім не па справядлівасці, як вучылі дома. І ніхто ўжо не мог нічога выправіць. І новы медаль быў бы зусім не такім сапраўдным…

— Вядома ж, вельмі прыкра, што ён з'еў, — асцярожна заўважыла маці. — Але, я не думаю, што спецыяльна. Напэўна, ён вельмі засмуціўся, што не перамог і што ніхто з пераможцаў яго не пачаставаў. Вось і не ўтрымаўся… Так часам бывае, нават у дарослых.

Маці змоўкла, узяла дачку за руку.

— Па дарозе пагаворым.

— Ну як жа так бывае, што не ўтрымаўся?! — усё ніяк не магла супакоіцца Рыта. — І чаму гэта трэба было яго частаваць? Гэта ж не проста медаль… Ён жа за перамогу! Ты ж сама казала!

На школьным ганку моцна пахла апалай лістотай. Імжыў дробны надакучлівы дожджык.

— Я з ім цяпер не тое што сябраваць, нават размаўляць не буду!

— Ведаеш, — сказала маці. — Мне здаецца, нам трэба па-іншаму зрабіць. Давай я заўтра дам табе з сабой вялікую шакаладку. Каб і табе хапіла, і Ягору.

— Што?!

Ад абурэння Рыта нават спынілася.

— Гэта навошта? Ягору?! Ён жа сёння мой медаль з'еў! Я… Я не жадаю яго частаваць! Ён гэтак са мной… А я… Яго…

— Я разумею, — цярпліва працягвала маці. — Але… Ведаеш, гэта складана растлумачыць. Проста сяброўства, сонейка, больш важкае, чым любыя медалі. Сяброўства згубіць лёгка. А зрабіць крок насустрач бывае потым вельмі няпроста…

Рыта здзіўлена слухала маці.

— Мама, а як жа тады па справядлівасці? Я ж перамагла, а ён у мяне з'еў медаль! А за што ж яму яшчэ і шакаладку?

— Маленькая мая, справядлівасць — гэта вельмі важна! Але часам трэба зрабіць проста па-добраму, разумееш?

Нічога на гэта не адказваючы, Рыта насуплена разглядала, як жоўтыя гумавыя боцікі смела каламуцяць чорныя восеньскія лужыны. Дождж перастаў імжыць, і сярод хмар паступова пачалі праглядваць кавалачкі блакітнага неба. Нягледзячы на гэта, на душы дзяўчынкі было цьмяна. Ёй не хацелася засмучаць маці, і ў той жа час упершыню яна засумнявалася ў правільнасці апошняй мамінай парады. Раней усё было проста, а вось зараз…

«Дзіўная яна нейкая, гэтая іх справядлівасць! — ліхаманкава скакалі ў галаве Рыты думкі. — І хіба ж гэта справядлівасць, наогул?»

***Алена ТУЛУШАВА***
***Пераклад з рускай Генадзя АЎЛАСЕНКІ***

*Алена Тулушава — масквічка. Пасля школы па гранце паехала ў Францыю, дзе вывучала міжнародны бізнес. Вярнуўшыся ў Маскву, скончыла Інстытут аналітычнай псіхалогіі і псіхааналізу, затым — Інстытут псіхатэрапіі і клінічнай псіхалогіі, працуе ў дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры. А яшчэ яна скончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Горкага.*



Мастачка Вольга ІСАКАВА

# Пяць лыжак зацiркі

*«Шчасце не мае сваёй асобнай меркі для ўсіх людзей на свеце, але кожны чалавек мае сваю асобную мерку да шчасця і свой асобны погляд на самое шчасце»,* — кажа Змітрок Бядуля, маючы на ўвазе ўсяго толькі пяць лыжак зацiркі. Для ранейшай сялянскай сям'і шчасцем магла быць гэта звычайная страва. Асабліва *«вясной, якраз у тую пару, калі галадуха пануе па вёсках, калі няма чым і муху накарміць. Апошні запас выйшаў, хоць зубамі ляпай; шчаўя яшчэ нямашака».* Шчаслівай, інакш кажучы, падзеяй было гатаванне зацiркі. *«Мамка зацільку гатуе! Мамка, мне дасі! Мамка, мне дасі!»*

Але няшчасце ходзіць недзе недалёка. Бывае, што ў выглядзе суседкі Сцёпчыхі, «на зацірку ахвотніцы». Прыйшла яна — і з'ела тыя самыя пяць лыжак доўгачаканага ласунку.

У некаторых вёсках зацiрка падаецца на стол і зараз — як вельмі простая і досыць смачная страва. Паспрабуем яе згатаваць.

***Што спатрэбіцца (на адну талерку):***
***трошкі (мо шклянка) пшанічнай мукі,***
***трошкі халоднай вады,***
***вада для варкі,***
***1,5 шклянкі малака (або 1 цыбулінка і кавалачак сала),***
***Соль.***

***Як гатаваць:***

У муку дадаём вады, солі і не перамешваем, а заціраем (бо зацiрка) — камечым мокрую муку разам з сухой у пальцах, пакуль не ўтворацца бясформенныя тугія шматочкі цеста. Сочым за тым, каб яны заставаліся прысыпанымі рэшткамі мукі, не зліпаліся між сабою. За гэты час паспее закіпець у каструлі вада. Кідаем у яе шматочкі, чакаем закіпання — і хвілінку-паўтары варым, а потым… Ёсць два варыянты. Або хуценька адкідваем шматочкі на друшляк, вяртаем у каструлю, заліваем малаком і, падсаліўшы, праграваем, або не адкідваем на друшляк, а смажым загадзя пакрышанае кубікамі сала і пасечаную дробна цыбулю ды «засквараем» гэтым змесцівам патэльні змесціва каструлі. Атрымліваецца паўпразрыстая густаватая поліўка.

Смачна вам есці! І апетытнага настрою на новае чытанне!

Бярозка

чароўны свет

*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для школьнікаў)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны»***



**Клуб сяброў часопіса**:
*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*
Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія № 2 (Вілейка), гімназія № 1 (Свіслач, Гродзенскі раён), гімназія № 1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Докшыцы), Параф'янаўская СШ (Докшыцкі раён), СШ № 1 (Глыбокае), СШ № 1 (Ельск), СШ № 34 (Мінск), СШ № 129 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), СШ № 207 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф. Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 29 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П. Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, СШ № 25 (Мінск), Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), Коханаўская СШ імя І. П. Кажара (Талачынскі раён), СШ № 1 (Пінск), Гарадзішчанская СШ (Пінскі раён).

*На першай старонцы вокладкі — малюнак вучаніцы Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў Жанны Гладко*

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Шэф-рэдактар
Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.
Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013 выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА
Рэдактар:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА
Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ
Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана ў друк ??.04.2015 г.
Фармат 60x84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. ??.
Тыраж 1099 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 15 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск




***

***Вучань прыходзіць дадому змрочны.***

***— Цябе сёння выклікалі? — пытаецца бацька.***

***— Выклікалі! — уздыхаючы, адказвае сын. — Назаўтра цябе выклікаюць…***

***

Вучань прыбягае дадому ўзрадваны.

— Як мне сёння пашчасціла! Настаўніца хацела мяне ў куток паставіць, але ўсе куткі аказаліся занятымі!

***

***— Скажыце, дзеці, — пытаецца настаўніца, — якая школа, на ваш погляд, самая лепшая?***

***— Зачыненая! — хорам адказваюць вучні.***

***

Маленькі хлопчык глядзіць па тэлевізары чэмпіянат міру па лёгкай атлетыцы.

— Мама, а чаго гэтыя дзядзькі так хутка бягуць?

— Ну… — адказвае маці, — той, хто прыбяжыць першым, атрымае прыз.

— А чаму ж тады астатнія бягуць?

***

***— Якія стравы ты ўмееш смачна гатаваць?***

***— Я ўмею вельмі смачна нарэзаць каўбасу.***

***

Бабулю ледзь інфаркт не схапіў, калі двухгадовая ўнучка пачала хадзіць за ёй следам і гучна паўтараць адну і тую ж фразу: «Пакайся і маліся!», «Пакайся і маліся!»…

І толькі праз гадзіну бабуля сцяміла, што дзяўчо просіць уключыць ёй мульцік пра Карлсана і Малыша.

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Кошка — 3, конь — 5, певень — 8, асёл — 2, зязюля — 4, жаба — 3. Колькі сабака?

**2.** Які паўвостраў жаліцца на сваю велічыню?

**3.** Якая рака самая драпежная?

**4.** Чым іголка ад каня адрозніваецца?

**5.** Ішлі два бацькі і два сыны. Знайшлі тры яблыкі. Не рэзалі, а падзялілі роўна. Як такое магло быць?

**6.** У яго капялюш ёсць, а галавы няма. Нага ёсць, а чаравік адсутнічае.

**7.** Калі чорнай кошцы прасцей за ўсё прабрацца ў дом?

**8.** Што стаіць пасярод Зямлі?

**9.** Дзве галавы, шэсць ног, адзін хвост — што гэта?

**10.** Калі дзесяць чалавек пад адным парасонам не намокнуць?

## Падарунак ад




а




*Мастак Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ*

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Кошка — мяў (3 літары), конь — і-го-го (5), певень — ку-ка-рэ-ку (8), асёл — і-а (2), зязюля — ку-ку (4), жаба — ква (3). Тады сабака — 3 (гаў).
2. Паўвостраў Ямал.
3. Рака Тыгр.
4. На іголку спачатку сядзеш, потым ускочыш. А на каня спачатку ўскочыш, потым сядзеш.
5. Гэта былі тры чалавекі: сын, бацька і дзядуля.
6. Грыб.
7. Калі дзверы адчыненыя.
8. Літара М.
9. Коннік на кані.
10. Калі няма дажджу.

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# СЯДЗІБА СЁМКАВА

*Макет рэканструкцыі сядзібы Адама Хмары ў Сёмкаве (Мінскі раён). Аўтар — Дар'я Яфімец, 9 «Б» клас. Кіраўнік — Таццяна Васільеўна Вайтэнка*

Паселішча Сёмкава вядома нам з XVI стагоддзя, але тады яно называлася Сёмкава Саламярэцкае. Другая частка назвы прытулілася ад прозвішча князёў, якія мелі тут невялікі палац. У сярэдзіне XVIII стагоддзя Сёмкава перайшло ў валоданне Адама Хмары — быў такі мінскі ваявода. Гэты Хмара і замовіў праект сядзібы знакамітаму на нашай зямлі архітэктару Карлу Спампані. Тут, у гэтай сядзібе, цяпер амаль цалкам разбуранай, Адам Хмара прымаў высокага госця — караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Што яшчэ цікава: пры раскопках месца ў левым флігелі было знойдзена надмагілле бацькоў Адама Хмары.


ISSN 0320-7579
9 770320 757007 15004